PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (1959) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 28 ЛІСТАПАДА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ДА ГОРАДА КЛЯШЧЭЛІ СТРАШЭННА ДАЛЁКА

12 лістапада а палове сёмай раніцы адправіўся я на аўтобусе з Беластока з намерам папасці на святкаванні з нагоды надання Кляшчэлям гарадскіх правоў. Свята мела пачацца а 10 гадзіне. Перад восьмай быў я ўжо ў Бельску. У касе хацеў купіць білет на аўтобус, які адпраўляецца ў Кляшчэлі а 8 гадзіне, але мне сказалі: „Няма гэтакага". „Як жа ж няма, у Беластоку мне сказалі, што ёсць" — не здаваўся я. „Што яны, з глузду з'ехалі? Даўно такога няма".

Аўтобус ішоў у Кляшчэлі праз чатыры гадзіны, а цягнікам я паспеў бы толькі на палову дванаццатай. Сцяміўшы гэта, кінуўся я назад у аўтобус, якім я прыехаў з Беластока, і паехаў у Гайнаўку. Здзіўлены шафёр прадаў мне білет. Маўляў, не спадабаўся чалавеку Бельск. Тым часам маімі крокамі кіравала шалёная думка, што калі ў Беластоку сказалі, што з Гайнаўкі ніякі аўтобус у адпаведны час у Кляшчэлі не адпраўляецца, дык якраз, можа, будзе наадварот. Не было. У напрамку Кляшчэляў можна было даехаць толькі ў Дубічы-Царкоўныя, але адтуль, як сказала мне касірша, у Кляшчэлі „страшэнна далёка".

Усё-такі ў Гайнаўцы мне пашанцавала. Выратаваў мяне цягнік, які ў 9.10 адправіўся ў Чаромху. З акна цягніка прабаваў я ўгледзець Кляшчэлі, помнячы са сваіх ранейшых падарожжаў, што яны між Гайнаўкай ды Чаромхай. Як аказалася, гэта не тычыцца чыгункі. Пабачыўшы аграмадную сістэму чыгуначных пуцёў, я зразумеў, што папаў проста ў Чаромху. А дзе ж Кляшчэлі? Пільнаваў і не падпільнаваў?

Хутка выявілася, што Кляшчэлі на сваім месцы, трэба толькі сесці на цягнік, які ў 10.20 адпраўляецца ў Бельск, і высесці на першым прыпынку.

Шчасце, што мне добрыя людзі падказалі, інакш бы не заўважыў. Высеў я ў полі, а халодны, пранізлівы вецер пакаціў мяне проста ў горад. На гадзінніку было без пяці адзінаццаць. Пасля чатырох гадзін і 25 хвілін няспыннага падарожжа, уступіў я ў задворкі Кляшчэляў.

* * *

Першае, што кінулася мне ў вочы на галоўнай вуліцы Кляшчэляў, гэта жанчына ў цёмных акулярах, якая рухалася між людзьмі з нейкай нетутэйшай энергіяй, расстаўляючы пажарнікаў, гарцэраў і іншых. А 11.15 на Парковым пляцы ля царквы павінны былі сысціся пасля набажэнстваў вернікі з абодвух храмаў — праваслаўнага і каталіцкага.

У названы час прыбеў на месца сваіх вернікаў каталіцкі епіскап Ян Храпак. Праз некалькі мінут з'явіўся аўтобус, які прывёз паліцыйны аркестр. Чакаліся толькі праваслаўныя (значыць, большасць жыхароў горада), але покуль што дарма. Холад быў такі страшэнны, што праз момант я пабаяўся, што каталіцкае насельніцтва горада Кляшчэлі проста вымерзне, так і не дачакаўшыся праваслаўных братоў. Духавенства пайшло пагрэцца на плябанію, але калі аркестр, каб не замерзнуць, рэзануў „Першую брыгаду", салідарна далучыла да народу.

Жанчына ў цёмных акулярах бегала туды і назад між плацам і царквою, каб нарэшце развесці рукамі. Эдыта Фурас-Махонь, кіраўнічка МГОК, якая прыехала сюды з глыбіні Польшчы, вывучыла такім чынам, што ў праваслаўных усё трывае два разы даўжэй, чымся ў каталікаў. Нічога тут не зробіш!

Мітрапаліт Васіль прывёў сваіх авечак у поўдзень. Бургамістр Аляксандр Сяліцкі і віцэ-ваявода Аляксандр Усакевіч маглі нарэшце ўрачыста пасадзіць сімвалічнае дрэўца. Гэта быў, паводле мяне, дуб, але быццам не наш, толькі канадскі. Усё ж такі магу памыляцца, каб ён нам толькі вырас!

Пасля гэтай цырымоніі ўсе прысутныя грамадою прайшлі з музыкай у дом культуры на ўрачыстую сесію Гарадской рады.

* * *

Пасяджэнне рады здамінавала гістарычная праблематыка. Самай цікавай тэмай гістарычных дэбатаў было пытанне, хто быў у Кляшчэлях раней: праваслаўныя ці каталікі.

Абодва бакі ставіліся ў вялікай сіле і былі да дыскусіі вельмі добра падрыхтаванымі. Рэй вялі а. Рыгор Сасна з боку праваслаўных і кс. прэлат Эўгеніюш Бароўскі (які нават падрыхтаваў адмысловую брашуру) з боку каталікоў. Дэбаты вяліся з выключнай галантнасцю. Усё-такі, як сцвердзіў а. Сасна, з поўнай пашанай да католікаў, можна гаварыць аб іх у Кляшчэлях толькі з XVI стагоддзя, падчас як аб праваслаўных з XI ст.

Наканец з залы адазваўся сп. Артысевіч, з роду спаконвечных кляшчэлеўскіх мяшчан, пытаючыся, чаму не быў зачытаны першы акт надання Кляшчэлям гарадскіх правоў у 1523 годзе, які быў напісаны на старабеларускай мове. Гэтым моцным акцэнтам сесія і закончылася.



*Набажэнства ў царкве закончылася апоўдні.*

* * *

Прысутныя на сесіі маглі яшчэ паглядзець мастацкія выступленні школьнікаў. Дзеткі былі добра падрыхтаваныя. Асабліва самыя малыя хвацка адыгралі камічную сцэнку пра гэта, як Кляшчэлі з вёскі сталі горадам.

Хацеў я запытацца ў арганізатараў, чаму ўся мастацкая частка была выключна на польскай мове. Усё-такі кінуў гэта, даведаўшыся ад сяброўкі, якой дзве сястрычкі спяваюць у хоры, што яны самі не хочуць спяваць па-беларуску, бо нейк цяжка гэта ў іх атрымоўваецца. Не хочуць, дык не хочуць. Іхняя старэйшая сястра, а мая сяброўка, навучылася гаварыць па-беларуску і нават стала дзяячкай, дык можа і малодшыя калісьці адумаюцца.

* * *

Мой дваюрадны брат з Гайнаўкі сказаў: „Што гэта за горад Кляшчэлі? У дзесяць мінут увесь абыдзеш і блока ў ім няма ніводнага". Усё ж такі горад гэта не блокі, але людзі. У такім сэнсе Гайнаўка яшчэ доўга не будзе горадам, ано фабрычным пасёлкам, падчас як Кляшчэлі ніколі горадам быць не пераставалі. У Кляшчэлях, у адрозненне ад Гайнаўкі ёсць свае патомныя мяшчане, праслоўка з зусім іншым успрыманнем свету, чымся сяляне, няхай сабе і перанесеныя ў горад.

Самое вяртанне гарадскіх правоў, вядома, нічога не мяняе. Да вайны ў горадзе Кляшчэлі паўз вуліцы ішлі барозны, а трохі бруку было толькі пасярэдзіне дарогі.

У вёсцы Кляшчэлі на вуліцах палажылі асфальт і тратуары. Яшчэ некалькі гадоў таму, у бюракратычнай сістэме, Кляшчэлі як горад карысталіся б, пэўна ж нейкімі спецыяльнымі правамі і сродкамі, належнымі якраз гарадам. Цяпер застаецца спадзявацца на сябе і выбраны сабой самаўрад.

Хаця перспектывы развіцця мястэчка няясныя, пакідаў я Кляшчэлі ва ўзвышаным настроі, з нейкім неакрэсленым спадзяваннем на будучыню. Калі маем знайсці сваё месца ў гарадской цывілізацыі, дык перш за ўсё ў такіх мястэчках.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**
**Фота Я. ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## А ШТО ГЭТА ЗА ВУЧНІ?

**Пасля артыкула „Наша родная мова" („Ніва" н-р 44 (1955) ад 31.X.1993 г.) ў рэдакцыі абрываліся тэлефоны. Многія чытачы хацелі сустрэцца і пагутарыць на закранутую ў артыкуле тэму. Аказваецца, што навучанне беларускай мовы для многіх з'яўляецца важнай і нярэдка эмацыянальнай справай. Паехала я ў Гайнаўку, дзе мела нагоду сустрэцца з бацькамі вучняў і пазнаёміцца з іх становішчам. Чытачоў „Нівы" можа здзівіць (хаця сумняваюся ў гэтым), што ніхто з суразмоўцаў не згадзіўся публікаваць сваё прозвішча. — Лепш не, — гаварылі. Чаму? Адкажыце сабе самі.**

**Гаворыць бацька, які хоча, каб яго дзеці вывучалі беларускую мову.**

— У школьным годзе 1989/90 я быў членам бацькоўскага камітэта ў Пачатковай школе н-р 1. Маё дзіця было ў другім класе. Я хацеў сарганізаваць там беларускую мову. Выступіў на бацькоўскім сходзе, потым на педагагічнай радзе і прапанаваў увесці беларускую мову. Гаварыў таксама з гайнаўскімі беларускімі дзеячамі. Прасіў, каб іх жонкі і знаёмыя, якія настаўнічаюць у школе н-р 1 шукалі ахвотных дзяцей. Многія адразу ўцякалі ад гэтай тэмы. Усё ж такі назбіралася 31 дзіця. Гэта былі дзеці з шасці паралельных другіх класаў. Радасць была аднак кароткая. Калі маё дзіця было ў чацвертым класе, з гэтых 31 дзіцяці асталося толькі 2 вучняў (спрацаваў тут прынцып добраахвотнасці!). І за кару, што яшчэ хацелі вывучыць беларускай мове, далучылі іх зноў да III класа! Настаўніца Гаўрылюк адышла на пенсію і не было каму пераняць вучняў. У пятым класе ўжо не вучылі. Цяпер другое маё дзіця. Сёлета і яно заявіла, што не будзе хадзіць на беларускую мову. Тут сітуацыя паўтараецца. Калі дайшло яно да чацвёртага класа, яго і яшчэ аднаго вучня далучылі да нейкай групы, дзе пачынаюць вывучаць літары. А яно ж умее ўжо чытаць! Другая справа. Глядзяць на іх у школе як на нейкую дзівосную з'яву. На ўрок беларускай мовы, дзе вучылася групка вучняў заглянула іншая настаўніца з той жа школы:

— A co to za uczniowie? — здзівілася яна.

— A, to ci, co ich rodzice tak chcą, żeby tej białoruskiej mowy uczyć, — адказала настаўніца беларускай мовы.

І як можа адчуваць сябе ў такой сітуацыі дзіця? Калі будзе такі падыход настаўніка, то хто добраахвотна будзе хадзіць на гэтыя ўрокі? Той, што ў Баршчэўскага мае пяцёрку на дыпломе, не мусіць быць адразу добрым настаўнікам. Калі так вядзе сябе выпускніца беларускай філалогіі — то каго яна хоча вучыць? Тут, у такой сітуацыі патрэбныя добрыя настаўнікі; не чыноўнікі, а людзі з душою, людзі, якія ўмелі б знайсціся ў гэтай цяжкай сітуацыі. Паглядзіце, як палякі пасылаюць настаўнікаў польскай мовы ў Казахстан. За 30 долараў у невыносных для нас умовах людзі працуюць для справы. Для іх праца настаўніка — гэта місія. Бачу толькі адзін выхад. Трэба нам такой школы як „тройка" ў Бельску. У такой школе трэба ўвесці мову не добраахвотна, а абавязкова. Няхай і не ўсе

☞ *Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Francuski profesor uniwersytetu zarabia — w przeliczeniu na złotówki 90 milionów, polski — blisko dwadzieścia razy mniej. Książka kosztuje we Francji 200 tysięcy, w Polsce - trzy cztery razy mniej.*
*(Polityka, nr 44)*

**Тыя вучоныя-жабаеды — гэта ў сапраўднасці эксплуататарскі клас. У Польшчы, вось, справядлівасць. Прафесар мае менш, чым кухарка. І так быць павінна, ён жа нічога не робіць, толькі сядзіць, п'е каву і нешта выдумоўвае.**

* * *

*Premier Suchocka za dobry stan państwa i dobrą pracę postanowiła wynagrodzić swój rząd. Każdy minister oprócz trzymiesięcznej odprawy otrzymał 100 milionów zł. Wiceprezes d/s Radia i Telewizji Barbara Borys-Damięcka z okazji 35-lecia pracy twórczej otrzymała 850 milionów złotych.*
*(Gazeta Współczesna, nr 216)*

Добрую працу трэба цаніць, асабліва сваю. А людзі гавораць, што гэта крадзеж. Няўдзячныя, забыліся хто імі так добра кіраваў.

* * *

*Niemal 15 miliardów złotych może odebrać z sejmowej kasy za pierwszy miesiąc pracy swoich posłów Sojusz Lewicy Demokratycznej — największy klub w parlamencie. Najmniejszy, BBWR —półtora miliarda. Po urządzeniu i wyremontowaniu biur poselskich średnie wydatki miesięczne z budżetu na jednego posła nie powinny przekroczyć 43 milionów złotych.*
*(Rzeczpospolita, nr 258)*

**З такім „шмалем" прыемна падумаць і пра беспрацоўных, галодных і ўсялякіх іншых неўдалотаў.**

* * *

*Leon Jończyk, Adam Michnik, Krzysztof Penderecki, Zbigniew Religa i Jerzy Urban otrzymają tytuły książęce nadane im przez Polski Ruch Monarchistyczny. Pierwszą mitrę książęcą Ruch przyznał przed rokiem głowie RP Lechowi Wałęsie.*
*(Kurier Poranny, nr 214)*

Беласток паводле манархістаў будзе ў складзе Мазавецкага княства. Ходзяць чуткі, што вялікім князем будзе тут Урбан.

* * *

*Obecnie wszyscy zaczęli się spodziewać większych pieniędzy na kulturę, podniesienia rangi pracownika kultury przynajmniej do tej, jaką miał za rządów PZPR. Bo teraz dopiero widać, że w tamtych czasach kulało to wszystko i jęczało pod jarzmem okupanta, ale wyżyć się dało. A dzisiaj — ni cholery.*
*(Styk, nr 10)*

* * *

*Demokratyczny kapitalizm jest ustrojem dla ludzi dorosłych i odpowiedzialnych, realny socjalizm był ogródkiem jordanowskim, w którym traktowano nas jak dzieci. Trudno się dziwić, że czasami odczuwamy nostalgię za utraconym dzieciństwem, że chcielibyśmy więcej opieki, ochrony, mniej odpowiedzialności i ciężaru, wyborów, także dotyczących kształtowania własnego życiorysu.*
*(Polityka, nr 45)*

* * *

***Беластоцкаму футбольнаму клюбу „Ягелёнія" лепей гуляць у футбольным чэмпіянаце Беларусі — заявіў адзін з кіраўнікоў гэтага клюбу. Да гэтай высновы ён прыйшоў нядаўна. Лічыць, што ўзровень польскага футболу значна панізіўся і гэтая тэндэнцыя будзе працягвацца яшчэ доўга. Футбольны чэмпіянат Беларусі наадварот, прагрэсіруе. Таму, каб беластоцкаму футболу не застацца на задворках футбольнай Эўропы, пажадана зрабіць гэты крок як мага раней.***
***(Пагоня, н-р 35)***

Няма сумнення, кіраўнік „Ягелёніі" — гэта добра законспіраваны беларус, які ў такі хітры спосаб імкнецца далучыць Беласточчыну да Беларусі. Проста неверагоднае, як паўсюдна пануе тут атмасфера ірэдэнтызму.

* * *

*Pracownicy hotelu sejmowego jeszcze nie znają nazwisk parlamentarzystów, a już bezbłędnie rozpoznają przedstawicieli PSL. Większość z nich nosi ze sobą podniszczone aktówki z dermy, a w nich drugie śniadanie. Trzeba mieć nadzieję, że podczas transmisji sejmowych uda się uniknąć widoku posła rozpakowującego swoją teczkę z ceraty i wyjmującego z niej jajka na twardo.*
*Jeżeli chodzi o menu nowej ekipy, to sejmowy kucharz krzywi się, kiedy posłowie zamawiają parówki z musztardą i popijają mlekiem.*
*Trzeba więc przypomnieć, że aby uchodzić za człowieka obytego towarzysko, nie należy również pić ajerkoniaku pod śledzia ani strzelać z szampana do koleżanek posłanek, nawet jeżeli rozpozna się wśród nich znajomą z sąsiedniej gminy.*
*(Gazeta Współczesna, nr 211)*

* * *

*Dzisiaj w Mińsku stwierdzenie „dałem w łapę" brzmi tak samo zwyczajnie jak: „wczoraj oddałem bieliznę do pralni".*
*Szanowni biznesmeni, gdy przy załatwianiu ważnych interesów zaczynają się pojawiać niezrozumiałe, wydawałoby się, problemy, trzeba wam wiedzieć, że chodzi o łapówkę. Wyjście w takim przypadku jest zawsze jedno — trzeba szukać pośrednika.*
*(Partner Białoruski, nr 10)*

Паясняем пачынаючым бізнесменам, што „пасрэднік" гэта чалавек, які ведае каму і колькі трэба даць, каб справа пайшла наперад. Зразумела, „пасрэднік" бярэ адпаведны ганарар за сваю працу. Звычайная прафесія.

* * *

*На Беларусі падслухоўваюць тэлефоны.*
*(Беларус, н-р 404)*

Не толькі на Беларусі, але нічога тут новага ў гэтым закутку свету.

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан** прыедзе ў Менск з афіцыйным візітам у студзені 1994 года — паведаміў дэпутатам старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. „Будзе гэта незвычайна важнае здарэнне", — сказаў спікер беларускага парламента. Праўдападобна Клінтан прыедзе ў сталіцу Беларусі пасля канферэнцыі ў вярхах у Брусэлі, якая адбудзецца 10-11 студзеня 1994 г., і пасля сустрэчы з прэзідэнтам Расеі Барысам Ельцыным. Паводле меркаванняў палітычных аглядальнікаў прэзідэнт ЗША падчас свайго візіту ў Менск намервaецца падзякаваць Беларусі за ратыфікацыю Пагаднення СТАРТ-1, якога вынікам была дэнуклеарызацыя рэспублікі (у адрозненне ад Украіны, якая паўстрымоўваецца ад падпісання гэтага пагаднення). Мяркуецца, што падчас студзеньскага падарожжа па Эўропе прэзідэнт Клінтан наведае шэраг сярэдне- і ўсходнееўрапейскіх краін, а таксама іншыя дзяржавы СНД.

**Польска-літоўская консульская канвенцыя** набыла законную сілу. 15 лістапада ратыфікацыйнымі дакументамі абмяняліся ў Варшаве віцэ-міністр замежных спраў Анджэй Ананіч і пасол Літвы Данюс Юневічус. Заявілі яны, што яшчэ ў лістападзе міністры замежных спраў пачнуць перамовы наконт польска-літоўскага трактата.

**Музей Леніна**, які дзесяткі гадоў знаходзіўся ля Чырвонай плошчы ў Маскве, закрыты па загаду Барыса Ельцына. Гмах Музея ў будучым мае стаць сядзібай маскоўскай Думы, якая заменіць цяперашні савет дэпутатаў.

**У Кракаве адбылася канферэнцыя** на тэму адносін папы Яна Паўла II да хрысціянскага Усходу, у якой удзельнічалі навукоўцы з Украіны, Расеі, Нямеччыны і Польшчы. Мерапрыемства папярэдзілі „Дні ўкраінскай культуры ў Ягелонскім універсітэце", якіх суарганізатарам былі Фонд святога Уладзіміра і Тэалагічная акадэмія ў Кракаве. Асноўнай тэмай дэбатаў былі адносіны папы да Украіны.

**Беласток** у пачатку снежня будзе падключаны да цэнтральнай краёвай газавай сістэмы і такім чынам стане незалежным ад паставак газу з Беларусі. У Беластоку без абмежаванняў будзе можна абаграваць газам кватэры.

**Капітул узнагароды Прэзідэнта горада Беластока** вылучыў сёлетніх лаўрэатаў. Прэтэндэнтаў, прапанаваных рэдакцыямі газет і радыё ды прыватнымі асобамі і культурнымі арганізацыямі, было больш за дзесяць. Прэміі Прэзідэнта Беластока атрымалі: **Таварыства „Вершалін-Тэатр"**, дырэктар Беластоцкай Філармоніі — **Міраслаў Яцэк Блашчык** і менеджэр летняй кавярні пры гарадской Ратушы — **Міхал Стракоўскі.**

**Міжнародны кірмаш фармацыі і медыцыны „Фар-Медык"** адбыўся ў Беластоку. Прыняло ў ім удзел звыш сарака фірмаў з усёй краіны, якія прапанавалі шырокі асартымент лякарстваў, прылад і медычнага абсталявання. На кірмашы былі таксама госці з Літвы, Расіі і Беларусі.

**Камітэт аховы правоў дзіцяці ў Беластоку** арганізаваў сустрэчу, прысвечаную сітуацыі дзяцей у беспрацоўных сем'ях. Удзельнікі — беспрацоўныя бацькі — стварылі **Грамадскі камітэт дапамогі беспрацоўным.**

**Румыны**, якія жабравалі на вуліцах Беластока і рэгіёна, былі перавезены ў Румынскае пасольства ў Варшаву, а адтуль на кантрольна-прапускны пункт у Медыку, каб далей падаца ў Румынію. Румыны спачатку жылі ў бараках у Старасельцах, якія некалькі тыдняў таму згарэлі. Апошнім часам начавалі яны на чыгуначным прыпынку ў Клепачах. З настаннем марозаў звярнуліся яны ў Ваяводскую ўправу з просьбай дапамагчы ім вярнуцца на радзіму з прычыны цяжкіх умоў і холаду. Выезд групы румынаў (звыш сарака чалавек) арганізавалі Гарадскі цэнтр грамадскай дапамогі і Ваяводская камендатура Паліцыі.

**54 штукі агністрэльнай і 15 пнеўматычнай зброі**, а таксама 10 тысяч боепрыпасаў укралі зладзеі са склада спартыўнага ціра пры вул. Варшаўскай у Беластоку. Ціp з'яўляецца ўласнасцю Лігі аховы краіны. Была гэта самая вялікая за апошнія дваццаць год пакража зброі ў Беластоку.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Змяняць рэчаіснасць пачынай ад сябе — заклікае Сакрат Яновіч.
- Змяншаецца колькасць жыхароў беларускіх вёсак.
- Хто плакаў пасля смерці Сталіна.
- Весткі з Орлі, Ялоўкі і Бельска.

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### НА БЕЛАРУСІ ЛЕПШАГА ЖЫЦЦЯ ПАКУЛЬ НЕ ПРАДБАЧЫЦЦА

Хоць сусветная супольніцтва і зацікаўлена па-ранейшаму ў садзейнічанні рэфармаванню беларускай эканомікі, але, па ўсім відаць, не спяшаецца распачынаць актыўных дзеянняў без прыняцця адпаведных рашэнняў парламентам рэспублікі, тым больш, што, па апошніх заявах Нацыянальнага банка рэспублікі, спадзяванні на абмен беларускіх „зайчыкаў" на расейскія рублі па курсу 1:1, пэўна, так і застануцца толькі спадзяваннямі.

Таму на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі па праблемах эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з замежнымі краінамі „Бізнесфорум-93" аўтарытэтныя прадстаўнікі буйнейшых міжнародных арганізацый (Генеральная пагаднення па тарыфах і гандлю, Еўрапейская эканамічная камісіі ААН), эксперты знешнеэканамічных міністэрстваў СНД, а таксама бізнесмены Германіі, Італіі, Індыі, Эстоніі, Турцыі абмежаваліся разглядам эканамічнага становішча ў Беларусі і выпрацоўкай некаторых рэкамендацый.

Па падліках замежных спецыялістаў, на канец бягучага года беспрацоўе ў Беларусі складзе 118 тысяч чалавек, а нацыянальны валавы прадукт складзе каля 20 працэнтаў, калі на канец 1992 года інфляцыя была 37 працэнтаў у год, дык да канца гэтага яна можа дасягнуць каля 2000 працэнтаў. Умовы ж, пры якіх Беларусь можа разлічваць на фінансавую дапамогу з Захаду: поўная прыхільнасць сістэме рыначнай эканомікі і канстытуцыйныя гарантыі абароны з боку дзяржавы правоў прыватнага ўласніка.

### ЛЕПШ МЕЦЬ У РУКАХ „ЗАЙЦА", ЧЫМ ЧАКАЦЬ РАСЕЙСКАГА РУБЛЯ

Нацыянальны банк Беларусі ў чарговы раз падрыхтаваў праект пастановы, у якой прапануецца да аб'яднання грашовых сістэм з Расеяй зрабіць на тэрыторыі рэспублікі адзіным плацежным сродкам беларускі рубель — у простанародзі яго называюць „зайцам".

Калі Вярхоўны Савет рэспублікі прыме гэты дакумент, то расейскі рубель не будзе выкарыстоўвацца ў Беларусі. Нацбанк таксама патрабуе, каб усе існуючыя ў рэспубліцы валютныя рэзервы былі сканцэтраваны толькі ў яго руках. Больш таго, з выпадку прыняцця згаданага вышэй дакумента будзе абмежавана выкарыстанне свабодна канверсаванай валюты (долара, маркі, фунта) на ўнутраным рынку.

### ПАДАЕМ У БЕЗДАНЬ

Амаль на 15 працэнтаў за 9 месяцаў бягучага года ў параўнанні з мінулым годам знізіўся ў Беларусі аб'ём выпускаемай прадукцыі. За тлумачэннямі далёка хадзіць не трэба. На чатырохдзённы працоўны тыдзень перайшлі ўсе буйныя і не вельмі прадпрыемствы, а „Гомсельмаш" — адно з буйнейшых нават у былым СССР прадпрыемства, якое выпускае сельскагаспадарчую тэхніку — на паросе поўнага спынення вытворчасці. Каля 24 працэнтаў складае спад вытворчасці ў недзяржаўным сектары.

### ОЙ, МАРОЗ, МАРОЗ, НЕ МАРОЗЬ МЯНЕ

Зіма, што прыйшла ў Беларусь з першымі лістападаўскімі маразамі, абяцае быць цяжкай і халоднай. Як і чакалася, у сувязі з адсутнасцю паліва тэмпература ў кватэрах, службовых памяшканнях і нават у бальніцах і дзіцячых садках не дасягае вызначаных міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі і падтрымліваецца на адзнацы ніжэйшай за 18 градусаў.

Апошнім часам раскошай лічыцца ўжо і гарачая вада. Прынамсі, недалёкі той час, калі яна будзе паступаць у кватэры гараджан па графіку. Па самых сумных прагнозах, магчыма, раз на тыдзень.

### НЕ ЎСЁ ТОЕ ДОБРАЕ, ШТО РЭКЛАМУЮЦЬ

Падчас таварнага голаду, зразумела, няшмат знойдзецца выбараў вытворчасці і прадуктаў харчавання, якія б не карысталіся попытам у насельніцтва. Аднак нават у гэтых умовах Менская санэпідэмстанцыя, гандальінспекцыя і іншыя службы, якія маюць права ацэнкі якасці, спрабуюць абараняць правы спажыўцоў.

Выстаўка „Антырэклама-93", якая адкрыецца ў снежні бягучага года не мае аналагаў ні ў Беларусі, ні ў краінах СНД. Аб усіх узорах нядобраякасных тавараў народнага спажывання і прадуктаў харчавання будзе дадзена самая поўная інфармацыя: краіна выпуску, прадпрыемствы, якія іх вырабілі або гандлявалі імі, а таксама падрабязнае апісанне ўсіх заган.

### ДАРАГІ УЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ

Дабрачыннасць не ведае межаў: ні палітычных, ні гістарычных, ні геаграфічных. Гэта яшчэ раз даказалі ветэраны вайны і працы Бешанковіцкага раённага савета, якія пачалі кампанію па збору грашовых сродкаў у Фонд пацярпеўшых ад Чарнобыльскай аварыі і ў Фонд падтрымкі Маўзалею У.І. Леніна.

### ТРЭБА Ў РОЗНЫХ КРАЯХ ПАСПЯВАЦЬ

Амаль два месяцы правялі на гастролях у Злучаных Штатах удзельнікі студыі „Сябры". Яны выступілі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з канцэртам памяці Максіма Гарэцкага, далі пяць канцэртаў для беларусаў Амерыкі і яшчэ некалькі — для навучэнцаў амерыканскіх каледжаў. Апошнія асабліва ўпадабалі беларускую польку.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПАНАРАМА НАРАЎСКАЙ ГМІНЫ

### (6)

## Новыя пабудовы

Сёлета здалі ў карыстанне водапровод у Кутавой, яшчэ будуюць водаправодную лінію ў Ваське. Ваду з крана маюць жыхары Нарвы, Макаўкі, Ласінкі і Храбустоўкі. Зараз заканчваюць дакументацыю на пабудову водаправодаў у Тыневічах Вялікіх і Тыневічах Малых ды ў Істоку, а таксама ў вёсцы Лапухоўка.

Гмінныя ўлады не забываюць і пра пабудову ачышчальняў сцёкаў. У Нарве мае ее тамашняя новая пачатковая школа. Да яе падключылі і жыллёвыя шматсямейныя будынкі-блокі. Варта дадаць, што вялікую ачышчальню былога ПОМа мадэрнізуе мясцовае Прадукцыйна-гандлёвае прадпрыемства „Пронар".

Усё больш жыхароў Нараўскай гміны хоча мець тэлефон у сваёй хаце. Найбольш іх у жыхароў Нарвы, Ласінкі, Трасцянкі, Кутавой і Макаўкі. Грамадскі камітэт тэлефанізацыі ў вёсцы Іванкі ўжо падрыхтаваў дакументацыю на пабудову тэлефоннай лініі.

## Беспрацоўе

Зараз у Нараўскай гміне амаль 350 беспрацоўных, у тым ліку пераважаюць жанчыны. Шукаюць працы маладыя людзі: ва ўзросце 18—24 гадоў — 128 і ва ўзросце 25—34 гадоў — 108 асоб. Сярод іх сто чалавек мае ўсяго пачатковую адукацыю, 150 закончылі прафесіянальныя школы і васемнаццаць — агульнаадукацыйныя ліцэі.

Па колькасці беспрацоўных Нараўская гміна займае трэцяе месца сярод гмінаў на тэрыторыі былога Гайнаўскага павета. Апярэджваюць яе Гайнаўская і Нараўчанская гміны. Крыху менш беспрацоўных у горадзе і гміне Кляшчэлі — 305, у Чыжоўскай гміне — 137 і ў Дубіцкай гміне — 120.

Сёлета з фінансавай дапамогі Гміннага асяродка грамадскай дапамогі скарыстала 187 сем'яў, на суму 578 мільёнаў злотых.

## Трактары з Нарвы

Прадукцыйна-гандлёвае прадпрыемства „Пронар" у Нарве заснавана пяць гадоў таму. Сёлета ў пачатку красавіка пачало яно ўпершыню манціраваць з дэталяў трактары. Камплекты неабходных дэталяў, рухавікі ў 80 конскіх сіл ды іншыя механізмы і элементы прысылае з Рэспублікі Беларусь тамашні Менскі трактарны завод (МТЗ). Трактары „Беларусь" маюць прывод (перадачу): адны — на абедзве восі, другія — толькі на заднюю вось.

Дэталі для зборкі трактароў паступаюць з Менска ў Семяноўку, да якой вядуць шырокія чыгуначныя рэйкі і дзе працуюць мытнікі. Адсюль — гэта ўжо недалёкая дарога — прывозяць іх у зборачны цэх у Нарве — паінфармаваў дырэктар фірмы Сяргей Мартынюк.

„Пронар" намераны прадукаваць таксама розныя падвесныя сельскагаспадарчыя машыны да „Беларуса".

У прадпрыемстве „Пронар" працуе каля 170 чалавек. Фірма пабудавала бензастанцыю, мае два аптовыя склады (гуртоўні) харчовых прадуктаў ды аўтамабільных і трактарных запчастак, аўтолу і машыннага масла, а таксама дзве лесапільныя рамы. Вядзе фірменныя спажывецкія крамы і газетна-часопісны кіёск.

„Пронар" будуе яшчэ адну бензастанцыю побач вёскі Збуч у Чыжоўскай гміне. На месцы, пад адным дахам будзе фірменная крама і рэстаран. Сёлета нараўскі „Пронар" выслаў на экспарт да нашых усходніх суседзяў шмат тон цыбулі, яблыкаў, ахаладжальных напіткаў. Павезлі іх у Маскву і ў Мурманск.

## Як сабе радзяць калгасы?

У Нараўскай гміне існуе пяць сельскагаспадарчых прадукцыйных спулдзельняў (калгасаў). Найлепшая з іх „Рольмак" — у Макаўцы. Лепшыя яе поспехі пачаліся недзе ў 1983 годзе, а мо крыху раней. Ужо тады яе дзейнасцю кіраваў старшыня Віктар Рэент, чалавек вопытны ў справе, з адпаведнай падрыхтоўкай. Перад гэтым усе шэсць калгасаў у гміне былі аб'яднаныя ў вялікі сельскагаспадарчы камбінат. Распаўся ён у 1979 годзе і спулдзельні зноў пачалі працаваць самастойна.

У 1983 годзе „Рольмак" у Макаўцы шырока разгарнуў свінагадоўлю. У 1987 годзе закончылі пабудову птушкафермы і пачалі гадаваць курэй. Праз тры гады „Рольмак" меў значны прыбытак. У мінулым годзе пабудавалі каўбасную. У сакавіку бягучага года пачалі прадукаваць па дзве тоны ўсялякіх вяндліаў, на адну змену. Цяпер у каўбаснай працуе каля 40 асоб.

Нядаўна спулдзельні ў Макаўцы і ў Крыўцы аб'ядналіся. Крывецкая спулдзельня мела каля чатырохсот гектараў зямельных угоддзяў. Тамашнія спулдзельцы гадавалі буйную рагатую жывёлу, у асноўным дойныя каровы, свіней ды гусей.

Зараз „Рольмак" мае даволі вялікую гадавую прадукцыю, між іншым 700 тон жывой вагі свіней і 120 тон жывой вагі ялавічыны, каля 10 мільёнаў курыных яек і 220 тысяч літраў малака. Вядома, для жывёлы патрэбны корм — у тым выпадку ажно пяць тысяч тон. Раней яго куплялі. Цяпер 80% яго нарыхтоўваюць самі. Прыдбалі зямлі. Маюць дзевяць збожжавых камбайнаў, сушыльні зерня і т.зв. зялёных кармоў, мяшальні пашаў, шмат трактароў.

Мясныя вырабы з Макаўкі возяць у пяць фірменных крамаў у Гайнаўцы і ў адну ў Нарве. У снежні бягучага года „Рольмак" адкрые сваю краму ў Бельску-Падляшскім. Апрача таго вяндліны дастаўляе ў Беласток, да пунктаў продажу ў Нараўчанскай і Чыжоўскай гмінах. Вазілі іх нават у Варшаву, гэта значыць даволі далёка. Зараз бензін зноў падаражэў і транспарт у сталіцу перастаў аплачвацца.

У „Рольмаку" працуе 203 асобы. Даязджаюць сюды з Гайнаўкі — трыццаць асоб, з Кленікаў і Крыўца — па пятнаццаць, а таксама дзве з Беластока.

У лістападзе гэтага года спулдзельцы намерыліся прадаць на аўкцыёне дойныя каровы і заняцца гадоўляй індыкаў у вызваленых ад кароў аборах.

*(Працяг будзе)*

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# НЕ ДАЕДЗЕМ!

Не даедзем! Куды? Ад нас у Беласток. Не так у Беласток, як з Беластока цяжка нам вярнуцца дадому. І то чыгункай, самым папулярным транспартам. І гэта тады, калі ў нас галоўная мара — даехаць да Еўропы! Нікуды мы не даедзем! Можа там, на захадзе Польшчы, дабяруцца неяк да цывілізаванага свету, але не ў нас на Гайнаўшчыне!

Паслухайце! З Гайнаўкі ў Бельск чыгуначныя пуці паклалі яшчэ пры цары. Але вось звычайныя цягнікі сёння з Гайнаўкі ў Бельск не ходзяць, а толькі два вагончыкі. Як назваць такі транспарт, не ведаю. Адна слухачка беластоцкага радыё назвала тыя вагончыкі экспанатамі з цырка. Падарожжа такім цягнікам уесцца вышэй вушэй! У адным такім вагончыку — 25 месцаў для сядзення.

Вось як гэта выглядае: у Бельск уязджае цягнік з Беластока. Вывальваецца з яго гурма пасажыраў. Больш сотні хоча ехаць далей, у Гайнаўку. А перад ім вагончыкі на 50 асоб! Вядома, найгорш у пятніцу. І вось тады пачынаецца сапраўдны цырк. Крык, піск, людзі сціскаюцца, як селядцы ў бочцы. Найгорш на прыпынках. Там выходзяць не толькі тыя, каму трэба; выпіхнуць з вагона і тых, каму ехаць далей. І зноў людзі мусяць упіхвацца назад. Вось падарожжа, як на Дзікім Захадзе! Ці ж нельга дачапіць яшчэ пару такіх музейных экспанатаў? Тады, пэўна, быў бы камфорт пасажырам, праўда? Цэны на білеты ж павысілі, праўда? Плацім жа за месца да сядзення, а тут чалавек ляжыць на чалавеку? Пэўна, уладам чыгуначным здаецца, што так трэба?

А, можа, гэта спецыяльны спорт для падарожнікаў? Можа яшчэ гэта ўсё для таго, каб было аб чым пісаць у газеты і расказваць па радыё? Каб весялей народу жылося?

**ГРЫША МАРОЗ**

# „АБАГНАІЦЦА" ДЫ ІНШЫЯ НЕЛАГІЧНАСЦІ

Я, наогул, дапільноўваю друку сваіх тэкстаў. Добра дагледзеў, здавалася, і артыкул *„Сэнс вёскі ў яе беларускасці, інакшай ёй смерць"*, змешчаны ў сорак шостай „Ніве" з палове лістапада. Ды, аказалася, куды там!

У тым месцы артыкула, дзе гавару я, што мы яшчэ не выйшлі з пушчы, хоць і перабудоўваліся ў Беласток, мелася мною на ўвазе іранічнае шчасце, замест усур'ёз *„наша няшчасце?"* У наступнай фразе, карыстаючыся вядомым анекдотам пра спозненага бегуна на стадыёне, трэба: *„не даўся абагнацца"* (выйшла *„абагнаіцца"!)*. Вось як аднаадзінюткая лішняя літарка ёсць у стане змяніць сэнс не толькі слова, але і ўсяго выказвання, спадары рэдактары!

І ў самым канцы *„Сэнсу вёскі..."* проста кідаецца ў вочы нелагічнасць, якой, магчыма, дапусціўся і я сам, але рэдакцыя дзеля таго і лічыцца рэдакцыяй, каб лавіць глупствы ды не пускаць іх на белы свет. Сеўшы вось у пятніцу за стол, каб пачытаць свяжуткі той нумар „Нівы" і, ясная справа, яшчэ раз гэты артыкул — надрукаваны ўжо чытаецца псіхалагічна цалкам інакш — здзівіўся самому сабе, чаму ў кантэксце ўсяго напісанага *„беларус дакладна нікому непатрэбен"*. Думаю: небеларус!

Гэта навука нашым карэспандэнтам, каб дбайна і разам з тым лагічна пісаць. Бо рэдакцыі не заўсёды хапае сілаў, часу папраўляць недадуманае або недаробленае ў пісьме.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# У ПОШУКАХ КАНІБАЛАЎ

Тры газеты напісалі пра „душагубных" асобеняў у Бельску-Падляшскім. Пісала пра іх „Газета тыгаднёва", „Кур'ер паранны" ды — апошнім часам — „Ніва" (н-р 45, ад 7 лістапада 1993 г.).

Вельмі мяне кранула, што ўсім нам вядомыя беларусы Васіль Ляшчынскі — дырэктар школы н-р 3, Арсень Артысевіч — дырэктар транспарту меліярацыі, з'яўляюцца палякаедамі. Сур'ёзным кандыдатам да гэтага звання з'яўляецца таксама Сяргей Лукашук — дырэктар Бельскага дома культуры. Усе дырэктары...

Што ж, не заставалася нічога іншага, як праверыць, хаця б і прымітыўным чынам, ці праўда ўсё гэта.

Зайшоў я ў школу н-р 3. Нікому нічога не гавару. Заглянуў у падвал — можа там сядзіць нехта з дубальтоўкай? А ўсе глядзяць на мяне, быццам я вырваўся з-за кратаў Харошчы. Асабліва ж дзіваваліся ў кухні.

— Дзе і якое мяса вы купляеце? — пытаюся ў іх. — Ці не падкідаеце часамі чагосьці, што нагадвае часткі чалавечага цела?..

— Як вы гэтак можаце... Вы можа з...

— Магу, — перарваў я. — А „Ніву" вы чытаеце?

— Не, не чытаем. Мова цяжкая.

— Каб вы чыталі, была б лёгкай, — кажу я, — ды знайшлі б там артыкул „Хто за гэтым стаіць?" Г. Кандрацюк і не здзіўляліся б, чаму я вам у гаршкі заглядаю!

Падумайце самі, сырога мяса ніхто цяпер не есць, таму я не паверу, што яго спажываў сам В. Ляшчынскі. Ды яшчэ — чалавечае!.. Цьфу. А на сесіі ж Гарадской рады Ян Радкевіч афіцыйна абвясціў аб палякаедах.

Зайшоў я яшчэ да дырэктара Ляшчынскага. Сядзеў ён у сваім кабінеце — прыстойны муж з пышнымі вусамі, сардэчны позірк, ну, зусім да канібала непадобны.

— Я прыйшоў да вас як прыватны дэтэктыў, — кажу яму. — Хачу рассакрэціць, якая рэальнасць. На сесіі Гарадской рады назвалі вас нейкім падобным да канібала словам. Я абышоў усё ды не знайшоў слядоў вашай дзейнасці — значыць, чалавечага мяса ці астанкаў касцей.

— Ага, косці, — паправіў свае вусы В. Ляшчынскі. — Я чамусьці іх часта сустракаю, толькі не на кухні. Гэтыя косці ляжалі ў кургане XVII стагоддзя — яго знішчыў бульдозерам Яраслаў Касцэвіч. Не дапамаглі мае просьбы. Раздушыў тысячы шкілетаў. Мабыць, Я. Радкевіч пераблытаў вельмі даўнія косці з цяперашнімі...

**БАРЫСЛАЎ РУДКОЎСКІ**

## Кляшчэлеўская статыстыка

Зараз у Кляшчэлеўскай гміне пражывае 3675 чалавек, у тым ліку 1782 мужчыны і 1893 жанчыны. Як відаць, жанчын тут больш. Горад Кляшчэлі налічвае 1645 жыхароў. Найбольшыя вёскі гэта: Дашы — 422 чалавекі, Палічна — 289, Дабрывада — 287 і Сухавольцы — 264.

Да найстарэйшых жыхароў горада і Кляшчэлеўскай гміны належаць: Антаніна Якубоўская і Кацярына Міхальчук з Кляшчэляў ды Еўдакія Федарук з вёскі Жукі. Яны „размянілі" ўжо другую сотню гадоў.

У 1878 годзе горад Кляшчэлі налічваў 1750 жыхароў, у 1900 годзе — 1980 чалавек, у 1921 годзе — 1458 асоб, у 1928 годзе — 1928 і ў 1931 годзе — ажно 2053 жыхары.

**(яц)**

## З МАЙГО ПАНАДВОРКА

1 лістапада па першай праграме тэлебачання нам паказалі, як у Расеі хаваюць памерлых. Гэта ж насмешка з тых людзей!

А я цяпер думаю: як мы праводзілі б сваіх блізкіх у астатнюю дарогу, калі б не ЗУС ці КРУС. Нахай у тэлебачанні палічаць кошт пахавання пры маёй пенсіі (1.200.000 злотых). Смяяцца з кагосьці то ўмеем, але лепш падумаць, як у нас з гэтым ёсць!

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

# ПІСЬМЫ З ФЛАРЫДЫ

**(5)**

Гэтае пісьмо напісана мною пасля дарогі з Фларыды дахаты.

Гасціннасць у Гэйнэсвіл адчувалі мы датуль, пакуль дэфінітыўна не вылезлася ў выніку штодзённых гутарак за сталом, што мэта, дзеля якое запрошана мяне, не можа рэалізавацца. Яны спадзяваліся, што ў Польшчы магчыма друкаваць кніжкі нашмат танней; аказалася наадварот.

Беларусы і наогул славяне тым адрозніваюцца ад заходніх народаў, у іх ліку і амерыканцаў, што ў нас ніхто не скажа госцю ў вочы, каб выбіраўся ўжо. Будзе клясці па-ціху, але не скажа таго ўголас.

У Амерыцы няма эмоцыяў; паўсюдны ў ёй рахунак. Гэта таму яна так багатая? Можа, але галоўная яе моц у чым іншым. У тым, што ўцякалі сюды і надалей уцякаюць самыя энергічныя ды інтэлігентныя людзі з усяго свету. Маладыя, здаровыя, напорыстыя ў рабоце. Важна прытым, што з краінаў моцна развітых, не замурзаных ад галечы і цемнаты; з такіх, як Англія, Нямеччына, Францыя, Швецыя.

Пачуваецца тое ў самалётах амерыканскіх авіяліній. У іх не дрэмлюць ані прыглядаюцца краявідам. Заядла чытаюць раніншня газеты з табліцамі валютных курсаў, цэнаў унцыі золата ў Лондане, аб'явамі такійскай біржы; дастаюць з дыпламатаў электронныя лічыльнікі, аналізуюць; гарласта кансультуюцца паміж сабою знаёмыя. Амерыка працуе і думае, таксама, пад небам. Ляцелі мы з Гэйнэсвіл у Нью-Йорк нешта пад чатыры гадзіны, з кароткім перапынкам у Атланце дзеля перасадкі з меншае машыны ў большую. Наўкола нашых — майго з Таняй — фатэляў нясціханая гамана, бы ў гарадскім аўтобусе на работу. Перапоўненасці няма, вылеты частыя.

На такіх, хто не гаворыць па-ангельску глядзяць, як на інваліда. А хто ж кахае калеку? Да Атланты і пасля масціліся каля нас суседзямі спраўныя дзецюкі, але, пачуўшы наша неангельскае маўленне, хутка перасядаліся ў нейкае незанятае крэсла. Гэта, мабыць, не нацыяналізм, а звычайная калькуляцыя, каб не стацца ахвяраю нашае просьбы аб нейкае праваднцтва, што каштавала б яго трохі часу... Юрысту, напрыклад, плацяць сто пяцьдзесят доляраў за гадзіну.

Самотнасць у Амерыцы — гэта адзінота нікому не патрэбнага. З выдаткамі на прыезд мы не мелі праблемаў, усё за нас было заплачана. Былі чаканымі. Чартовіна счаўплася менавіта ў ад'езд. Бракавала нам крыху „зялёных", на суму аднадзённага тут заробку бюраліста, бо ўзнікла неабходнасць плаціць за змену даты вылету назад. Адказалі, не жартуючы: нахай вам польская амбасада паможа!

Выйшаўшы з тэрмінала „Дэльты" ў Нью-Йорку я наіўна дадумаўся, што польскі „Лёт" павінен прыняць ад мяне даплату залатоўкамі, неабавязкова доларамі... Аднак не здолеў утлумачыць тое негрыцянцы, што абслугоўвае тутэйшую філію славутай варшаўскай паветранай фірмы. Давай тады званіць у паніцы Сяржуку Сокалаву-Воюшу, засеўшаму ў сусветнай метраполіі ў ролі мужа амерыкана-беларускай жонкі. Ды дзе там, усё, што хочаш прасі ў яго, толькі не грошы!

Паратаваў спадар Кастусь Мярляк. Пашанцавала мне застаць яго ля тэлефона, бо якраз не паехаў ён святою нядзельою 10 кастрычніка на чарговы канцэрт чарговага калектыву з Рэспублікі Беларусь, што ладзяцца ў прыцаркоўным комплексе ў Саўт-Рыверы.

Гэты добры чалавек з'явіўся спагадным анёлам другі раз, дарэчы кажучы. Вітаў нас і пераначаваў з 27-га на 28-ае верасня, замест каго іншага, раней намі лішне даверліва дамоўленага, а цяпер, вось, развітаў, гэтак жа не па сваёй волі. Я ўдзячны яму за тых пару словаў праўды, сказаных у існа амерыканскім стылі: *„Чаго вы сюды прыехалі? На чыю шыю хочаце сесці?"*.

У рэшце рэшт выперліся мы ў Польшчу, канчаткова вылечаныя з жадання бываць у Амерыцы. Недзе над паўночнай Атлантыкай захацелася пакурыць у хвасце „Боінга" на дзвесце пяцьдзесят месцаў і я, так сказаць, барада ў бараду наткнуўся на Валіка Сельвесюка, якому няма калі займацца беларускай справай; належыць да эліты вераціляў мільярднай „Амэгі". Пагаварылі пра сёе-тое. Даў мне новы нумар нью-йоркскага „Беларуса", у якім надрукавана звестку пра збор некалькіх сотняў долараў на заснаванне друкарні Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству ў Гайнаўцы (трэба ж, як думаю, тысяч пяцьдзесят!). Доктар Янка Запруднік апублікаваў на ангельскай мове том „Беларусь на скрыжаванні гістарычных дарог"; Валік узяў адзін экземпляр.

На Акэнці, мала большым за гэйнэсвільскае лётнішча (павятовае), убачылі нечакана Паўлю Сурвіла з Атланты, пераездам з Менску.

Прыехаўшы ў Беласток, купіў я чорнага хлеба і нагатаваў бульбы. Назаўтра выбраўся на тыдзень у Крынкі, каб акрыяць у родавым доме і дайсці да псіхічнае раўнавагі. Перадумаць непрадуманае.

Цяпер здаецца, што на Фларыдзе я не быў. Што гэта нейкі дзівацкі сон. Ды не, калі пагляджу на ненатуральнай велічыні сасновую шышку, прывезеную адтуль, якую падняла Таня ля тае ж Кінг-стрыт.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# БЕЛАРУСКІЯ ДЫПЛАМАТЫ ПЕРАЛІЧЫЛІСЯ

Перад выбарам непастаянных членаў Савета Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, сярод беларускай дыпламатычнай місіі ў Нью-Йорку настрой бын добры. Паводле іх меркаванняў, кандыдатуру Беларусі павінны былі падтрымаць 103 дзяржавы (на 176), што нават ценя шанцу не пакідала канкурэнту на гэтае самае крэсла — Чэхіі. Нават чуліся галасы спачування: ну трэба ж было чэхам трапіць якраз на нас. Сам жа дзяржаўны сакратар ЗША Уорэн Крыстафер абяцаў у Менску падтрымку гэтай супердзяржавы. А вядома, ці мала хто прагаласуе не так, як амерыканцы.

Каб святкаваць перамогу, у Нью-Йорк прыехаў сам міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка.

Як вядома, 29 кастрычніка г.г. непастаянным чэнам Савета Бяспекі ААН ад Усходняй Еўропы была выбраная Чэхія. Беларусь атрымала 62 галасы. Хаця галасаванне было тайнае, аднак з добрапаінфармаваных крыніц вядома, хто як галасаваў. Беларусь, у большасці, падтрымалі малыя афрыканскія і азіяцкія краіны. За Беларусь галасавалі сябры з СНД і Прыбалтыкі (апрача эстонцаў, якія, так як уся Скандынавія, падтрымалі чэхаў), а таксама Італія, Турцыя і Кітай.

ЗША падтрымалі Чэхію. Кажуць таму, што іхны пасол у ААН Мадлэйн Олбрайт па нацыянальнасці — чэшка. Як бы там не было, беларусы зноў пераканаліся ў шчырасць бескарысных абяцанняў.

**ак**




# WIDMO PEREJASŁAWIA

Wyjeżdżając z Mińska usiłowałem rozwiązać dylemat: metropolita Filaret realizuje politykę moskiewskiego patriarchatu (Moskwy?), usiłując przynajmniej w sferze religii podporządkować bądź ściślej związać Białoruś z Rosją, czy też wyraźnie demonstrowane przez niego podporządkowanie moskiewskiemu patriarchatowi jest swoistą reakcją obronną na ekspansję łacińskiego (czytaj: polskiego) Kościoła w Białorusi? Dopiero po przetrawieniu rozmów jakie odbyłem z eminencją i jego księżmi, z ministrem Żylskim, zrozumiałem, że prawosławie musi czuć się poważnie zagrożone, skoro tak żarliwie, niemal demonstracyjnie jednoczy się. Oznacza to, że dostojnicy Kościoła odpowiedzialni za "księżą inwazję" na Białoruś niewiele zrozumieli z ostatnich 400 lat polskiej historii. Albo też znają tę historię doskonale, ale robią swoje nie zważając na racje 40-milionowej Polski i 11-milionowej Białorusi.

W moim rozumieniu Polska ma (niezmiennie od wieków) do odegrania podobną rolę w stosunku do Wschodu, jak Francja w odniesieniu do nas. Niezmiennie, od wieków ta szansa jest marnotrawiona przez bzdurne rojenia mocarstwowe pewnych grup Polaków lub podobne im działania łacińskiego Kościoła, który swoje cele realizuje naszym kosztem. Bardzo chciałbym, by ktoś mi wskazał korzyści jakie Rzeczpospolita na przestrzeni czterech ostatnich wieków odniosła wskutek wprowadzenia unii na Wschodzie. Straty wyliczy nawet średnio obeznany z historią tego regionu Europy uczeń szkoły średniej: wplątanie I Rzeczypospolitej w wojny z Kozakami, którzy prowadzili je również w obronie prawosławia -- zdegradowały ostatecznie kraj gospodarczo i politycznie czyniąc go łatwym łupem Szwedów a potem zaborców, wymuszenie ekspansją katolicyzmu zwrotu Ukrainy w kierunku Moskwy w XVII wieku, wtrącanie się Rosji przez całe XVIII stulecie w sprawy polskie pod pretekstem obrony krzywdzonych prawosławnych. No i wiek XX: unia pozwoliła zachować Ukraińcom tożsamość narodową, kazała im myśleć o budowie własnego państwa, ale Polacy zapłacili stoma tysiącami zabitych na Podolu, Wołyniu i dalszymi dwustu tysiącami zmarłych z głodu, wycieńczenia, ran. Można by się zastanawiać, czy unia w XIX stuleciu na dawnych obszarach Rzeczypospolitej nie przyjęła pierwszego impetu rusyfikacji osłaniając w ten sposób ziemie rdzenne polskie, lecz są to raczej teoretyczne rozważania.

Podobnie jak przed paroma laty na Ukrainie, Kościół łaciński stosuje w Białorusi politykę faktów dokonanych. Oczywiście rękoma Polaków -- księży, biskupów. Nie mam powodu wątpić w wiarygodność danych, które mi podał metropolita Filaret (na 150 księży łacińskich Białorusinów jest tylko 26). Zamiast wsparcia naukowego, kulturalnego, moralnego, politycznego lekceważenie podmiotowości politycznej nowych, a więc szczególnie na to uczulonych, państw. Nie chciałbym, by Białorusini czy Ukraińcy dopisywali do starych polskich grzechów nowe, ale najprawdopodobniej dopiszą: księży z Mozambiku, Irlandii czy Brazylii nie oskarża się o polonizację, bo ich za Bugiem nie ma, choć może przed innymi powinni tam się znaleźć. Nie można rządu Białorusi oskarżać o złą wolę, skoro zezwala na przyjazd 50 księży z Polski tylko w jednym roku. Być może to za mało jak na aspiracje polskiego Kościoła, ale czy nie wystarczające, jeśli weźmie się pod uwagę potrzeby Polaków tam mieszkających?

Aż wierzyć się nie chce, jak niewiele nauczyły nas rozbiory, bezgłowa polityka II Rzeczypospolitej wobec mniejszości narodowych. Kto wie: gdyby przed wojną zamiast zamykać Ukraińcom, Białorusinom szkoły, wysyłać na nich karne ekspedycje wojskowe i policyjne, dać im autonomię, związać z kulturą, nauką, tradycją polską, czy po wojnie te narody nie stałyby się buforem, który odepchnąłby Polskę w bezpieczną strefę Austrii czy Finlandii? Co innego zagarnąć teren udający państwo przez kilka miesięcy, a co innego państwo posiadające wszystkie struktury, związane autonomią z innym. Narody pamiętają długo nie tylko krzywdy, także dobrodziejstwa -- hegemonia sowiecka nie była Bułgarom tak uciążliwa właśnie przez tę pamięć sięgającą ubiegłego stulecia.

Dwadzieścia lat rozsądnej polityki przedwojnia, szczególnie w stosunku do Ukraińców, zmieniłoby zupełnie obraz okupacji -- Podola czy Wołynia nie byłoby bo zabrakłoby powodu. Akcja "Wisła" także nie ujrzałaby światła dziennego. Już nie mówię o promieniowaniu polskiej kultury, sztuki na Wschód, na ziemie od 700 lat związane z naszą państwowością więc w sposób naturalny skłonne do wchłaniania polskości. Zapominamy, że po 700 latach militarnej ekspansji na Wschodzie stoimy dokładnie w punkcie zerowym, że jeżeli coś tam zostawiliśmy, to należy to wyłącznie do szeroko rozumianej kultury.

Możemy lekceważyć podmiotowość Białorusi czy Ukrainy -- poradzą sobie bez nas. Ten wariant już przerabialiśmy 350 lat temu, skończył się Perejasławiem (oddaniem najpierw części, potem całej Ukrainy, wzmocnieniem Rosji i w konsekwencji rozbiorami). Posmak Perejasławia czułem w słowach egzarchy Filareta, kiedy z przekonaniem mówił o patriarchalnej zwierzchności Moskwy nad Białorusią. Ta sytuacja nie wynika z miłości Białorusinów do Rosjan. Sprowokował ją polski Kościół, pozostawienie spraw swojemu biegowi przez nasz rząd, sejm, senat. Coś tam robiliśmy w ostatnich latach, i dokładnie to coś mamy. Nic więcej.

Paweł Jasienica pisał, że wielkim, nie spełnionym przeznaczeniem Rzeczypospolitej Polskiej była wolna, mocna gospodarczo i militarnie Ukraina. Wiedział co mówi: dwa przyjazne, czterdziestomilionowe narody w środku Europy z łatwością sprowadziłyby takiego Stalina do wymiaru Ceausescu, ewentualnie skrzyżowanego z cesarzem Bokassą. W takiej konfiguracji politycznej rewolucja mogłaby sięgnąć najwyżej po Syberię i Mongolię. Dziś Białoruś, Ukraina stają się wolne. Na litość boską, nie udawajmy, że tego nie widzimy. Wspierajmy je nie dla nich, przede wszystkim dla samych siebie.

Ryszard Surmacz, dziennikarz, jeden z kilku (!) ludzi wiedzących co naprawdę dzieje się na naszym Śląsku Opolskim, po wysłuchaniu mojej relacji z podróży do Mińska powiedział:

-- Na Śląsku mamy sytuację identyczną. Niuans polega na tym, że my występujemy w roli Białorusinów, a Niemcy Polaków. Czyżby Kościół w Polsce nie zdawał sobie z tego sprawy?

**ADAM W. KULIK**
"Kultura", Paryż,
Nr. 9/552, 1993

# Пазнаёміліся на ўроках беларускай мовы

Аляксандра Сегень — выпускніца бельскага (польска-беларускага) Педагагічнага ліцэя. Настаўнічае ўжо 25 год. Шмат гадоў працавала ў Пачатковай школе ў Старым Корніне. Калі перасялілася ў Гайнаўку, працу атрымала ў школе н-р 2. Працавала там з шасцігодкамі. Два гады таму не стала штату і трэба было шукаць іншага выхаду.

— Мая дачка, — расказвае настаўніца, — была ўжо ў трэцім класе. Мяне трывожыла, што маё дзіця не вучыцца беларускай мове. Знайшліся людзі, якія мелі такую ж самую праблему. Я заявіла тады дырэкцыі, што ёсць дзеткі, якія хочуць вывучаць беларускую мову. Дырэктар Збігнеў Будзыньскі вельмі прыхільна аднёсся да маёй прапановы. Такім чынам наладзілі мы навучанне беларускай мовы. Пачаткі былі цяжкія. Такіх бацькоў, якія хацелі гэтай мовы для сваіх дзетак і самі прыходзілі з гэтым у школу, было аднак мала. Трэба было хадзіць па дамах і гаварыць з бацькамі. Бацькі па-рознаму глядзелі на маю прапанову. Усё ж такі ўдалося мне назбіраць патрэбную колькасць вучняў (7 вучняў — гэта мінімум, каб пачаць навучанне гэтага прадмета). У гэтым годзе было ўжо намнога лягчэй. У „Гурніку” арганізаваўся беларускі калектыў песні і танца. Многія дзеткі хацелі ўдзельнічаць у ім. І я тады сказала, што ім трэба запісацца на ўрокі беларускай мовы, тады змогуць спяваць і танцаваць у дзіцячым калектыве.

**„Люблю наш край...**

старонку гэту” — так пачаўся і так закончыўся ўрок беларускай мовы. Другакласнікі былі вельмі актыўныя. Кожны хацеў паказаць сябе на занятках. Назбіралі шмат пяцёрак і шасцёрак.

— Трэба ім ставіць добрыя ацэнкі, — кажа настаўніца. — Баюся палохаць двойкамі, бо могуць перастаць хадзіць на беларускую мову.

На перапынку запыталася я ў дзяцей, ці бацькі загадалі ім вучыцца гэтай мовы. Амаль усе хочуць пахваліцца, што запісаліся самі.

— О, Элю запісала мама, — і паказваюць на дзяўчынку.

— Proszę pani, a Tomek nie będzie już chodził na białoruski, — скардзяцца хорам дзеткі.

— А чаму? — пытаюся ў хлопчыка.

— Бо мама крычыць, што прыходжу позна са школы, — кажа вінавата Томак.

— Але, можа буду хадзіць, яшчэ не ведаю.

Усе другакласнікі гавораць са мной па-польску: „Мы ўсё разумеем па-беларуску”, „у мяне тата і мама так гавораць”, „а ў мяне па-просту”, „у мяне бабка”. У дзетак склалася ўяўленне, што па-беларуску ва ўсіх гавораць бабка ды дзедка, што жывуць на вёсцы. Усе яны з паралельных другіх класаў — „ц”, „д”, „э”, „ф”. Пазнаёміліся на ўроках беларускай мовы.

— У нас вельмі мілая і добрая настаўніца. Хочам і далей спяваць і вучыцца па-беларуску, — шчабечуць дзеткі.

**Мой хлеб**

— Каб я не вучыла беларускай мове, — гаворыць настаўніца, — не мела б працы. Многія мае сяброўкі апынуліся зараз беспрацоўнымі. Я ўдзячная дырэкцыі, што ў школе прыхільны падыход да навучання беларускай мовы. І вельмі рада, што знайшліся гэтыя дзеткі. Гэта ж мой хлеб. Трэба цяпер старацца, каб давесці іх да восьмага класа. Карыстаюся дыдактычнымі гульнямі і заахвочваю іх спяваць і маляваць, а дзеці гэта любяць. Толькі некаторыя вучні адыходзяць пасля года навукі.

Урокі беларускай мовы расплянаваны нераўнамерна. У адным тыдні вучні маюць 2 гадзіны, у другім 4 (мабыць і тады Томак дастае лаянку ад мамы). Групы далучаюцца адна да другой раз на нейкі час. Часам дзеці паўтараюць той жа самы матэрыял. Амбітныя вучні могуць хутка знудзіцца на такіх занятках.

— Такая сітуацыя, што ж зробіш, — прызнаецца настаўніца.

Няма для іх аддзельнай залы. Вучні пераходзяць з аднаго памяшкання ў другое. Сёння пашчасцілася, дзве гадзіны праву чыліся ў адной зале.

— Матывіроўка, каб вучыцца беларускай мове, ёсць. Заўсёды кажу бацькам, дзе ж іхным дзецям далей вучыцца, як не ў беларускім ліцэі, — гаворыць настаўніца.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

P. S. Заняткі былі цікавымі і метадычна дапрацаванымі. Настаўніца, хаця і мела да сябе заўвагі, што „яна не спецыяліст”, карысталася прыгожай беларушчынай. Жаль толькі, што ў школе, у якой вучыцца 1625 дзяцей, толькі 74 вывучае беларускую мову.

# СЛОВА ПРА СТАНІСЛАВА ГРЫНКЕВІЧА

У Беларусі пра яго амаль не ведаюць. А ці ведаюць што-небудзь пра Станіслава Грынкевіча на Беласточчыне — мне таксама цяжка адказаць. Не ведаю я, ці пісала хоць раз пра яго і „Ніва”. Таму прашу ў вас: дайце мне сказаць слова пра Станіслава Грынкевіча — доктара медыцыны, гісторыка і пісьменніка, лёс якога абарвалі сталінскія рэпрэсіі.

Нарадзіўся Станіслаў Грынкевіч 2 лютага 1902 года ў мястэчку Новы Двор былога Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Спачатку вучыўся ў вясковага настаўніка, які яго і рыхтаваў да экзаменаў у гімназію. У 1912 годзе Стась Грынкевіч здаў экзамены і быў залічаны ў Гродзенскую дзяржаўную мужчынскую гімназію ў першы клас.

Калі пачалася першая сусветная вайна, С. Грынкевіч разам са сваім дзядзькам выехалі ў Смаленскую губерню. Там скончыў 7 класаў, а праз пэўны час зноў вярнуўся ў родную вёску, дзе пачаў рыхтавацца да паступлення ва універсітэт.

Здаўшы паспяхова экзамены Станіслаў Грынкевіч паступіў у Віленскі медыцынскі універсітэт. Але па сямейных абставінах заканчваў яго ў Познані. Да 1935 года працаваў у медыцынскай клініцы, пасля — у псіхіятрычнай клініцы ў Харошчы каля Беластока. Працаваў таксама ардынатарам аддзела нервовых хвароб, адначасова вёў лабараторныя доследы і пісаў пра іх працы. Займаўся і перакладчыцкай дзейнасцю: перакладаў на беларускую мову медыцынскія працы з іншых моў.

У пачатку 1937 года з сям'ёй пераехаў ён у Вільню. Тут уладкаваўся на працу ў першую Віленскую паліклініку. Меў свой дом, агарод, сад. У яго было дзве дачкі і два сыны, якіх прывучаў да працы.

У Вільні Станіслаў Грынкевіч пісаў артыкулы ў розныя беларускія часопісы. Яны з'яўляліся ў „Студэнцкай думцы”, „Крыніцы”, „Заранцы”, ”Калосьсях” і ў іншых выданнях. Ён любіў ездзіць па беларускіх вёсках, сустракацца з людзьмі, якім чытаў папулярныя лекцыі па гігіене, медыцыне і гісторыі. У 1936 годзе С. Грынкевіч выдаў брашуру „Асьвета”. На жаль, паліцыя яе канфіскавала, а аўтар адсядзеў два тыдні за кратамі і атрымаў штраф.

У 1937 годзе, пасля падарожжа на Украіну, ён напісаў і выдаў новую брашуру „У братоў украінцаў”. Наогул, доктар медыцыны Станіслаў Грынкевіч пісаў шмат. Адны назвы яго ных артыкулаў гавораць самі за сябе, гавораць аб тым, які гэта быў адукаваны і разумны чалавек. Вось, напрыклад, некалькі назваў яго ных прац: „Аб тэатры” (1927 г.), „Царква, Помста, Вязьніца” (1928 г.), „Народ” (1927 г.), „Капля вады” (1927 г.), „Як лячыць хваробы хатнім спосабам” (1927 г.), „З зацемак аб характары беларусаў” (1935 г.), „Аб праве да бацькаўшчыны” (1936 г.), „Гігіена псіхічная, як праблема аснаўных адносінаў да жыцьця” і многія іншыя.

У канцы 1945 года Станіслава Грынкевіча арыштоўваюць органы НКВД і адпраўляюць у Менск. Ад допытаў ён памёр...

Чытачам „Нівы” прапаную ўвазе артыкул С. Грынкевіча „З роднае Сакольшчыны”. Мне верыцца, што прыйдзе час і ўсе яго лепшыя працы будуць выдадзены на Беласточчыне ці ў Беларусі асобнаю кнігаю.

**СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН,**
**г. Слонім**

# А ШТО ГЭТА ЗА ВУЧНІ?

☛ *Працяг са стар. 1*

вывучаюць яе старанна, але хай вывучаюць. Дырэктар Ляшчынскі гэта для мяне прыклад і нам, менавіта, трэба такіх дырэктараў. Але больш беларусаў павінна ангажавацца ў гэтую справу і думаць аб такой школе.

Я прадстаўляў на з'ездзе БГКТ стан вывучання беларускай мовы. Былі там нашыя аўтарытэты. Прасіў, каб прыехалі яны ў пачатку навучальнага года на бацькоўскі сход ці педагагічную раду і баранілі беларускай мовы. Адказ быў такі: **КАЛІ НАС НЕ ЗАПРОСЯЦЬ, НЕ ПАЕДЗЕМ. НЕ МАЕМ ПРАВА.** А каму мае залежаць, пытаюся, Solidarności Ziemi Hajnowskiej? Званіў я да інспектар па беларускай мове Т. Русачык. Да сёння з ёю не магу сустрэцца. І што я, як бацька, магу тут яшчэ зрабіць?

Далей выказваліся бацькі пра іншыя школы. Размовам не было канца. Але пра гэта можа няхай яны самі напішуць. А можа адгукнуцца настаўнікі і вучні?

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

**Навучанне беларускай мовы ў пачатковых школах у Гайнаўцы.**

| Навучальны год / Нумар школы | 89/90 | 90/91 | 91/92 | 92/93 | 93/94 |
|---|---|---|---|---|---|
| школа н-р 1 | 31 | 20 | 18 | 21 | 42 |
| " н-р 2 | 123 | 45 | 13 | 68 | 74 |
| " н-р 3 | 27 | 43 | 31 | 31 | 55 |
| Спецыяльная " н-р 5 | - | - | - | - | - |
| Усяго: | 181 | 108 | 62 | 120 | 171 |

Гэтыя даныя былі ўзяты аўтаркай артыкула ў Гайнаўскім аддзеле БГКТ.

*СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ*

**З РОДНАЕ САКОЛЬШЧЫНЫ**

Хацеў бы з нагоды кніжкі інж. Крыштофіка „Jasienówka — wieś powiatu Sokólskiego”. Poznań. 1934. зьвярнуць увагу беларускага грамадзянства на Сакольшчыну. Трэба сказаць з сумам, што рознаякія ўмовы і абставіны апошніх некалькінаццаці гадоў быццам пакінулі Сакольшчыну, Аўгустоўшчыну, ды і адчасьці Беласточчыну за лагвом нашага нацыянальнага жыцьця і змаганьня. Сяньня шмат хто, на'т і з перадавое інтэлігенцыі, заглядаецца на менавяныя тэрыторыі, як на мёртвую пазыцыю нашага нацыянальнага чалавечага, інтэлектуальнага і гаспадарчага білянсу, калі яны ўсё-ж павінны быць дзейным жывым капіталам.

Да вайны бачылі мы ў Сакольшчыне адныя з першых спробаў масавае акцыі нацыянальнае сярод сялянства. Ці гэта былі паасобныя выезды сяброў Горадзенскага гуртка моладзі на вёску з мэтаю распаўсюджваньня сьведамасьці, ці гэта былі выезды тэатральнае групы вышменаванае арганізацыі — усё гэта будзіла і клікала народ да новых, лепшых дзён і Сакольшчына шырока адгукнулася. З Сакольшчыны родам, сяньня забыты, хаця жывы яшчэ, аўтар сапраўды філёзофічнае, адначасна вельмі простае і практычнае кніжкі пчалярскае, вядомы пад мянюшкаю Г. Бярозкі (Кс. Г. Бэтто). Згэтуль родам Кс. Фр. Грынкевіч — пачынальнік вельмі навачасна наладжанае працы паміж моладзьдзю. Сярод Сакольцаў бачым перадавую жанчыну ў нашым грамадзянстве Л. Войцічыху ды шмат, шмат яшчэ іншых людзей...

Вайна перабазавала пункты апоры працы беларускае на новых мясцох і Сакольшчына заглохла, казаў-бы нехта — дзірваном парасла. Зрух у пару Грамады скрануў быццам частакова і расьцярушыў нейкую дрымоту. Аднак не надоўга. Глядзельнік сяньня звонку ня бачыць тае руні беларускае, якая буйна паўсходзіла пару дзесяткаў гадоў таму назад.

Аднак і пасьля вайны вёска ў Сакольшчыне змагаецца за свае правы, імкнецца да асьветы ў роднай мове, робіць спробы наладзіць свае школы. Паказальнікам сьведамасьці можа быць адчасьці распаўсюджаньне прэсы. Дзеля арыентацыі зьвярну ўвагу на такі мамэнт, што ў аднэй з воласьцяў на пошту прыходзіла каля 50 экзэмпляраў прэсы палітычнае розных напрамкаў, органаў гаспадарчых і г. д. Колькасьць, бяручы яе ў самой сабе, мо' і невялікая, аднак для нашых умоў яна многагаворачая. Пасьля ведамае, няслаўнае забароны арцыб. Ялбжыкоўскага, колькасьць чытачоў меншае да 10 прац. Не напалохаліся ксяндзоўскіх праклёнаў толькі праваслаўныя. Усё-ж і на іх знайшліся спосабы, і сяньня беларускі друк рэгулярны ў Сакольшчыне справа ня лішне частая.

Беларуская арганізаваная работа ідзе там і сяньня, толькі мае йнакшы характар, інакшую тактыку, чымся ў другіх раёнах. Дзеля гэтага і наш падыход і адносіны да людзей і тэрыторыі мусяць быць іншыя. Першым крокам да таго — ведаць народ, ведаць псыхолёгію мясцовую. Сакольшчыну сяньня трэба нам вывучыць, ня трэба аб ёй забывацца.

***(Заканчэнне будзе)***

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Вучні з гайнаўскай "двойкі".* **Фота Ганны Кандрацюк**

## У ГАЙНАЎСКАЙ „ДВОЙЦЫ”

Эвеліна, Томэк, Сільвя, Эльвіра, Ёля, Марцін, Агнешка, Юліта, Павел і ўсе дзеткі з другога класа пазнаёміліся на ўроку беларускай мовы. Усе яны вучні паралельных класаў „б”, „ц”, „д”, „э”, „ф”. Вельмі любяць беларускія песні і вершы. Беларускай мовы будуць вучыцца да 8 класа.

— Маем вельмі добрую настаўніцу, асабліва падабаюцца нам загадкі і песні,— кажуць другакласнікі.

„Люблю наш край, старонку гэту” — такой песняй пачынаўся і так закончыўся ўрок. Марак сказаў на прывітанне верш „Ветлівыя словы”.

На ўроку дзеткі вывучалі літару *ы*. Настаўніца, Аляксандра Сегень, прынесла загадкі з гэтай літарай.

І вы, калі ласка, разгадайце гэтыя словы. Пастаўце націск і паясніце значэнне слоў:

(р ы а ш) (ы ш ы м) (н ы ы ш) (ы м а р).

Паспрабуйце злажыць іншыя словы з галоснымі *о, і, а, у*.

Гайнаўскія другакласнікі былі вельмі актыўныя на ўроку. Самі вызначылі вучняў, якія атрымалі пяцёркі. Для „Зоркі” заспявалі і пратанцавалі песню „Чаравік”.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

Адказ: шары, мышы, шыны, рамы

## НОВЫЯ ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК ГУЛЯЕ Ў БАЛЬНІЦУ

Аднойчы падыйшла Пік-Пік да Веранічкі і прапанавала:

— Давай пагуляем у бальніцу!

— А як? — запыталася Веранічка.

— Ну, вельмі проста, — пачала тлумачыць мышка. — Я буду хворая, а ты будзеш мая мама, якая прыносіць мне перадачы.

— Якія перадачы?

— Ну як якія? — зазлавала мышка, што Веранічка такая някемлівая, — цукерачкі, шакаладкі, бананы... Вунь суседчына дачка — у бальніцы, дык суседка носіць ёй перадачы кожны дзень.

— Добра, — згадзілася Веранічка. — А хто будзе доктарам?

— Якім доктарам? Навошта доктар? — занепакоілася мышка.

— Без доктара не бывае бальніцы, — растлумачыла Веранічка. — Доктар будзе цябе лячыць. Давай зробім доктарам Максіма.

Мышка разгублена паглядзела на Максіма. Той сядзеў у ложку, усміхаўся бяззубым ротам, пускаў сліну і малаціў бразготкай па драўляных парэнчах.

— Максім, хочаш быць доктарам? — ласкава запыталася Веранічка, і Максім радасна адказаў:

— Гу-гу!

— Ну, вось, ён згадзіўся! — пераклала Веранічка. Але Пік-Пік занепакоілася яшчэ больш.

— А як ён будзе мяне лячыць?

— Уколы рабіць, таблеткі даваць, тэмпературу мераць, аперацыю табе ўчыніць...

— Гэта як?!

— Ну, выража што-небудзь... Такое... лішняе...

— Гу-гу! — радасна пацвердзіў Максімка. Мышка паглядзела на тое, як ён лупіць бразготкай па ложку, і засумавала.

— А хіба без гэтага нельга?..

— Не-не! — запэўніла Веранічка. — Хворых трэба лячыць, а то яны памерці могуць!

— Ты ведаеш... Можа мы ў што іншае пагуляемся? — няўпэўнена загаварыла Пік-Пік. — Можа, у дом... Ці ў цырульню?..

— Гу-гу! — падскокваў у ложку „доктар”.

— А можа, я пасплю... — мармытнула мышка і схавалася ў норку, думаючы: „Бач, якія хітрыя... Нічога лішняга ж у мяне няма!”

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**




*Малюнак шасцігадовай Марты Гжыбэк з Беластока.*



З вучнёўскай творчасці

**ЗІМА**

Гэй, зіма, зіма,
Чаму ты так позна прыйшла?
Мы цябе чакалі,
На вуліцы гулялі!

Хоць позна прыйшла,
Снег, мароз нам нясла.
Тры месяцы зімы
Праляцяць, як сны.

**ІВОНА ЛАЕЎСКАЯ,**
**школа ў Орлі**

## Вершы Віктара Шведа

**НЕ МАЮ АКУЛЯРАЎ**

Бабуля ўнуку Мішку
Чытае штодзень кніжкі.
Здараецца, вядома,
Чытае аж да стомы.

І просіць тады Мішку:
— Ты пачытай мне крышку.
— Просіш, бабуля, дарам:
Не маю акуляраў!

**БАЛЮЧАЯ КРЫЎДА**

— На шаленства твае сёння
Вось перасцярога:
Крыўду сабе зробіш, доня,
Будзе плачу многа.

Прыбягае раптам Уля
З разбітым каленам:
— Крыўда гэтая, матуля,
Балючая страшэнна!

**ТАНЦУЮЦЬ МАЕ НОЖКІ**

Сядзіць сыночак за сталом,
Вымахвае нагамі.
— Не будзь разбэшчаным
сынком, —
Лае малога мама.

На гэта маме дарагой
Адказвае Сярожка:
— Заняты, бачыш, я ядой,
Танцуюць самі ножкі.

### ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА”!**

Пішуць табе вучні з VII „б” класа Пачатковай школы ў Орлі. Мы амаль усе вывучаем беларускую мову. Наш клас вельмі любіць урокі беларускай мовы.

Вучымся мы ў прыгожай, прасторнай школе. Цяпер у нас ёсць кабінет беларускай мовы. У кабінеце ёсць многа беларускіх кніг і насценгазет. Ёсць у нас куточак з выстаўкай народнай творчасці. Разам з настаўніцай Аннай Шыманскай мы пасадзілі многа кветак.

Нашым верным сябрам з'яўляешся Ты, „Зорка”! На апошнім уроку мы складалі вершы і табе іх высылаем. Прывітанні табе „Зорка”! Жадаем поспехаў!

**Вучні VII „б” класа,**
**Пачатковая школа ў Орлі**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## (3)

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

### Па частцы — цэлае

Вучні знайшлі ў шафе мастака часткі літар для трафарэтаў:

Падбіраючы часткі, каб скласці з іх літары, дзеці прыдумалі гульню: па частцы адгадаць літару. Паспрабуйце і вы адгадаць, у якіх літарах ёсць кожная з гэтых частак, і запісаць іх на паперы. Для кожнага тура настаўнік або вядучы прапануе адну частку. Час абмяжоўваецца — напрыклад, дзве-тры мінуты.

Праверка: спачатку трэба высветліць, у каго запісана найбольшая колькасць літар, і ён — пераможца па колькасці — называе іх (трэба сачыць, каб літары называліся правільна); астатнія адзначаюць ці закрэсліваюць у сябе названыя літары. Наступны называе літары, яшчэ не закрэсленыя; затым другі, трэці і г. д. Апошні — пераможца па якасці, бо ён знайшоў частку ў літары, у якой ніхто не заўважыў яе.

*Варыянт:* элемент літары запісваецца на дошцы каляровай крэйдай. Дзеці па чарзе падыходзяць і запісваюць у радок па адной літары — прыгожа, правільна, аднолькавага памеру. Перамагае той, хто запісаў апошнюю магчымую літару. Але адзначаюцца і тыя, што падабралі не па адной, а па некалькі літар, хоць і не заўсёды мелі магчымасць запісаць іх на дошцы.

### Не пішы пяром, як тапаром

Удасканальваць і падтрымліваць у належным стане каліграфію неабходна і тады, калі вучні ўжо авалодалі яе асновамі. Такім мэтам адпавядаюць ускладненыя конкурсы, напрыклад:

п е р ш ы  т у р — запісаць тры словы з чатырох літар;

д р у г і  т у р — тры словы з пяці літар;

т р э ц і  т у р — тры словы з шасці літар;

ч а ц в ё р т ы  т у р — тры словы з сямі літар;

п я т ы  т у р — запісаць назву паказанага прадмета (малюнак або здымак павінен быць дастаткова буйнога фармату, выразны).

*Варыянты:*

1. Адзін варыянт гэтай гульні — словы дыктуюцца, другі — падбіраюцца ўдзельнікамі конкурсу. Вынікі — па пяцібальнай сістэме.

2. Можна таксама правесці конкурсмаўчанку з наступнымі, вельмі карыснымі для замацавання каліграфічных навыкаў, развіцця вакамеру і эстэтычнага густу, заданнямі на:

правільнае вызначэнне параметраў літар, якія вучань піша на дошцы ці на паперы пад дыктоўку (спачатку тых, у якіх шырыня роўная палове вышыні, а затым і іншых: **б, в, з, у, р, ф, ж, ш, т, м**);

паступовае павелічэнне памеру запісваемых літар — правяраецца гэта лінейкай (прама — пад літарамі, коса — над імі);

паступовае памяншэнне літар (у слове або напісаных асобна);

запіс літар рознай канфігурацыі і інш.

Каб падахвоціць вучняў з адказнасцю адносіцца да свайго почырку, не псаваць яго, цікава пазнаёміць іх з народнымі выслоўямі, у якіх выказваецца павага да тых, хто добра валодае вуснай і пісьмовай мовай, клапоціцца пра чытабельнасць напісанага:

*усе веды з азбукі пачынаюцца;*
*як напішацца, так і прачытаецца;*
*пішы, пішы, рукой варушы, бо ў няўмекі — рукі калекі.*

У выслоўях не толькі хвала, але і насмешка, часам нават абурэнне:

*так сказаў, ды не так напісаў; ці ты пісаў пяром, ці певень кіпцюром; пісаў — стараўся, а чытаць — не ўзяўся; з літары на літару — як з купіны на купіну; ці прачытаеш, ці вочы паламаеш; напісаў пісака — каб чытаў сабака.*

*(Працяг у наступным нумары)*

# ЛАГАГРЫФ

1. дуе ў полі, 2. фантастычнае апавяданне, 3. у ім любяць капацца дзеці, 4. краіна, дзе нарадзіўся і жыў слаўны складальнік казак Ханс Крысціян Андэрсен, 5. мае чырвоныя доўгія ногі і дзюбу, 6. іграе ў тэатры, 7. вялікая, круглая пасудзіна, сціснутая абручамі, 8. ёсць у кінатэатры і ў тэлевізары, 9. малюнак з рэлігійным зместам.

Вылучаныя літары складуць назву беларускага хору з Бельска-Падляшскага.

Адказаў чакаем два тыдні. За правільны адказ адно з вас атрымае кніжку.




<u>Старажытныя рамёствы Беларусі</u>

## ЖАЛЕЗНЫЯ КАРУНКІ

Адзін з найстаражытнейшых і найбольш папулярных відаў мастацкай апрацоўкі металаў — кавальства, вядомае ў Беларусі з часоў жалезнага веку. З жалеза, якое здабывалі з мясцовых балотных руд, выкоўвалі наканечнікі коп'яў, нажы, долаты, конскую збрую, упрыгажэнні і іншае.

Асаблівага развіцця дасягнула кавальства ў XVI-XVII стагоддзях, калі пачалі ўтварацца кавальскія цэхі, што выдзяляліся з цэхаў іншых металаапрацоўчых спецыяльнасцей. У Віцебску, Полацку, Менску, Магілёве, Пінску, Гродне налічваліся дзесяткі кавалёў розных спецыяльнасцей: нажоўшчыкаў, мечнікаў, замочнікаў, кацельшчыкаў і іншых.

Пераважная большасць гарадскіх кавалёў працавала ў сферы манументальнага будаўніцтва. Для цэркваў, касцёлаў, палацаў, сядзіб выкоўваліся алтарныя перагародкі,ваконныя краты, вароты, агароджы, балконы, крыжы, флюгеры. Асноўны від дэкору агароджаў, варотаў, балконаў — разнастайнае спалучэнне прамых і выгнутых стрыжняў, S- і C-падобных завіткоў, скручванне гранёвых прутоў вакол падоўжанай восі, арнаментальныя матывы ў выглядзе разетак, бегункоў, меандру, картушаў і інш. Але кожны з агульнаеўрапейскіх мастацкіх стыляў, на якія арыентаваліся гарадскія майстры-кавалі, накладваў на характар каваных вырабаў свой адбітак: рэнесанс — спакойную плаўнасць, барока — пышную дэкаратыўнасць, класіцызм — урачыста-сухаватую стрыманасць, мадэрн — адвольную цякучасць.

У канцы XIX стагоддзя, з развіццём прамысловасці, мастацкае кавальства ў гарадах прыходзіць у заняпад або пераходзіць на стварэнне масавых вырабаў з прамысловага пракату. У старой забудове гарадоў, на старасвецкіх могілках і зараз можна бачыць шмат розных, часам досыць цікавых узораў кавальства. Яго традыцыі працягваюцца сёння ў афармленні інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, пры рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры.

**ЯЎГЕН САХУТА**

# АДГАДАНКА



*Адшукай на вялікім малюнку фрагменты з малых квадрацікаў.*

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі першы снег упадзе на мокрую зямлю і застанецца — зіма будзе мокрая, гразкая, на замерзлую зямлю — суровая, сухую — снег неўзабаве сыдзе.

Перад марозным надвор'ем на захадзе і ўсходзе сонца зараніца жоўтая, залацістая ці пунсовая; яе зеленаваты колер сведчыць пра тое, што халады будуць яшчэ доўга.

Яркі месяц на фоне вельмі бледнага дыска, акаймаванага чырвоным беражком, — заўтра будзе мароз, але паслязаўтра рэзка пацяплее.

Перыстыя аблокі паступова зацягваюць неба, размяшчаюцца шчыльным слоем, закрываюць сонца ці месяц — праз некаторы час пойдзе снег.



# ЛІЧЫЛКІ

* * *

Пайшла курка у аптэку,
Закрычала: „Кукарэку!
Дайце пудры і духоў
На падманку петухоў".

* * *

Ехала жаба на драбіне
Ї зляцела прама ў свінні.
— Ой, не ешце мяне свінні,
Бо я ваша гаспадыня.

* * *

Їшоў Ціхан па масту,
Праваліўся у ваду.
Бульк!

* * *

Чыкенчыкі, пікенчыкі,
Ляцелі галубенчыкі.
Чыкін, пікін,
Пальчык выкінь.

* * *

Эні-бэні, лікі-факі,
Торба, горба, сенцябракі,
Дэус-дэус, касмадэус,
Бац!

* * *

Эны-бэны, дыкі-пакі,
Арба, торба, энцы, смакі,
Эвус, дэвус, касматэвус,
Старой бабе ў запек спаць.

* * *

Эні-бэні, тры канторы,
Сахар, махар, памідоры,
Ас, бас, кіслы квас,
Выбірайся, чорт, ад нас.



## А Я ЯШЧЭ ЖЫВУ, ПІШУ

5 лістапада г.г. (пятніца) ў беларускіх радыёперадачах Польскага радыё ў Беластоку Ян Чыквін, старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", выступіў з надта суб'ектыўнай ацэнкай маёй літаратурнай творчасці. „Ахрысціўшы" мяне „саматужным прымітывістам" поўнасцю падпарадкаваў гэтаму тэрміну маю паэзію. „Не прыкмеціў" аўтар у мяне вершаў адпавядаючых літаратурным нормам, тады калі раней, кваліфікуючы як рэдактар вершы ў мой паэтычны зборнік „Родны сход", пры многіх з іх ставіў пяцёркі з плюсамі, захапляючыся іх лірызмам. Чыквін поўнасцю аднёс маю літаратурную творчасць да шасцідзесятых-сямідзесятых гадоў. Пазней, паводле яго, былі ўжо ў мяне толькі „паўторы". Прымаючы ў сваёй ацэнцы форму прошлага часу „быў", „пісаў" і чытаючы пазамагільным голасам выклікаў у слухачоў уражанне, што перадача — гэта ўжо пасмяротная эпітафія. Нічога тады дзіўнага, што да маёй жонкі пасыпаліся тэлефонныя званкі з запытаннямі і спачуваннем.

Хачу супакоіць дарагіх прыхільнікаў маёй паэтычнай творчасці, што я яшчэ не памёр, слава Богу жыву і ў далейшым пішу, доказам чаго з'яўляюцца старонкі „Нівы", у тым ліку і ніжэйнадрукаваны верш, прысвечаны Я. Чыквіну.

### А Я ЯШЧЭ ЖЫВУ, ПІШУ

*Яну Чыквіну*
*ў адказ на эпітафію*

Падаў свой голас у эфір
Наш „Белавежы" камандзір,
Ужо, што праўда, без салдат.
Адзін тут ацалеў Сакрат.
Жывым астаўся, не сакрэт,
Толькі таму, што не паэт.
Паэтаў колішніх няма
І іх шукаць ужо дарма...
Зрабіўся класікам адзін —
Ян Чыквін.
Успамянуў ён сапраўды
Шасцідзесятыя гады,
Калі у паэтычны свет
Лез саматужна нейкі Швед.
А я вось, Чыквіну на злосць,
І ў дзевяностых яшчэ ёсць.
І ў дзевяностых наяву
Усё яшчэ жыву, жыву.
Крываўлю Чыквіну душу,
Усё яшчэ пішу, пішу.
З'яўляецца крыніцай бед
Той саматужны

**ВІКТАР ШВЕД**



*БАРЫС РУСКО*

### ТВАЕ ВОЧЫ

Твае вочы смаляць,
як чырвоны вугаль,
як сонца на пустыні.
Твае вочы
знішчаюць маю кволую кветку надзеі.
Збыткам слоў.
Не гавары.
Мне словы непатрэбны.
У збытку ўласныя.
Учынкаў.
Тваіх учынкаў, ах, як нехапае!

* * *

Да Цябе ліст пішу я ноччу.
Дык які змест,
з якою моцай
перадаць думкі стройны лад?
Скажы, мой вечны адрасат.



## ЯКАЯ ВОСЕНЬ — КОЖНЫ БАЧЫЦЬ

Мастацкія пленэры, якія праводзяцца ў Белавежы з 1965 г., апошнім часам называюцца Мастацкімі сустрэчамі пагранічча. Сёлета праходзілі яны з 25 верасня па 17 кастрычніка. Апрача палякаў прымалі ў ім удзел мастакі з Беларусі, Расіі і Францыі. Добрае надвор'е і дасканалая атмасфера на пленэры паспрыялі ўзнікненню небывалай колькасці прац. На адкрыцці выстаўкі, якая ўжо традыцыйна наладжваецца ў памяшканнях Прыродазнаўчага музея, мастак з Ломжы, Мечыслаў Мазур, пажартаваў, што працавітасць на пленэры, мабыць, вынік чарнобыльскай аварыі; інакш ён яе не можа растлумачыць.

А калі ўжо я прыгадаў М. Мазура, то і пачну агляд прац з яго. Мастак гэты спецыялізуецца ў вітражах, і калі ён працягвае руку па пэндзаль, дык і карціны набываюць вітражны характар. Сваё палатно назваў ён „Чатыры поры года" і з-за гэтага падзяліў яго на чатыры часткі. На іх адзін і той жа краявід, прадстаўлены ў колерах, характэрных паасобным порам года. І не было б тут нічога асаблівага, каб не тое, што ў месцы, дзе павінна быць восень, віднеецца вялікая дзірка, аформлена вялікіх памераў рамкай для дыяпазітываў, праз якую бачым, дзякуючы музейным шкляным сценам, натуральную восень. На гэтай рамцы ёсць яшчэ надпіс: „Якая восень — кожны бачыць". Пад сваёй працай мастак палажыў камень з надпісам: „Камень, які зваліўся мне з сэрца". Магчыма, што гэта намёк на выстаўку, якой ён быў камісарам.

Жартоўнасць у сваёй працы выказаў таксама іншы мастак, Збігнеў Вашчэнюк з Беластока. Ён сёлета захапіўся дзятлам, якога змясціў аж на 5 палотнах. На адно з іх прычапіў птушку выразаную з дрэва, а на іншым — вынік дзейнасці гэтага ляснога лекара дрэў: палотна цэлае ў дзірках! Памятаю, што на адным з ранейшых пленэраў З. Вашчэнюк намаляваў злоснага сабаку, які адкусіў вугал карціны. Даслоўна! Той жа кусок тырчаў у яго сківіцах.

Усё ж найбольшай увагі заслугоўвае зусім іншае палатно З. Вашчэнюка. Артыст назваў яго „Шэлест". На белым фоне размясціў ён кусочкі белага кардону-брыстолю, якія укладваюцца ў нейкі лісток. Эфект надзвычайны!

На сёлетнім пленэры паявіўся новы від мастацтва — г. зв. „інсталяцыі", а больш зразумела кажучы — прасторавыя кампазіцыі. Сталася гэтак за справай француза Даніеля Нікод. Мастак у сваёй працы выкарыстаў старыя вааконныя нішу і раму, кавалкі ўжываных дошак, знішчаныя фанеру і брызент, фіранку, прасціны, толь. Некаторыя рэчы крыху памаляваў. Усё гэта разам, адпаведна размешчана, мае выражаць — паводле аўтара — нейкія перажыванні людской душы, зняволенай у існаванні. Людзям гэтая кампазіцыя зусім незразумелая, нечытэльная. Гледачы рэагуюць на яе адно ўсмешкай і паціcканнем плячамі.

Не надта цікава адрэкамендавалі сябе астатнія французы — Жан Бернард Бутэн, Ларан Фэр'е і Патрык Бэйлі- Кауэл. Іх палотны — глыбока абстрактныя, прычым нічога новага ў гэты жанр не ўносяць. Аж цішнецца на вусны „падсумаванне" — адно эпігонства! Прынамсі ў аднясенні да двух першых названых мастакоў.

Немалое зацікаўленне прысутных на вернісажы выклікаў Стэфан Цэнтамірскі з Масквы, паляк па паходжанню, які 12 гадоў правёў на ссылцы ў Сібіры. Успаміны аб гэтым перыядзе моцна адціснуліся ў яго псіхіцы, што і адлюстроўвае ён у сваіх карцінах. А маляваў іх у Белавежы на... 4-метровых кавалках толю! Калі іх павесіў, выглядалі яны як харугвы. Шкада, што зараз пасля вернісажа мастак забраў іх. Тлумачыўся ён, што павязе іх у Варшаву на іншую выстаўку, а потым перадасць тамашняму Музею незалежнасці. Гэты 65-гадовы мастак маляваў таксама традыцыйна. Яго палотны напамінаюць мне працы мастачкі Тамары Тарасевіч з Белавежы. Іх загалоўкі: „Сон збега", „Дні і ночы пушчы", „Бабіна лета".

Мастаком, які ўсё-такі выклікаў найвялікшае зацікаўленне ў наведвальнікаў быў Веслаў Дайлідка з Беластока. Асабліва спадабаўся ягоны цыкл „Байкі з імху і папарацяў". Акрылевыя палотны проста дыхаюць казачным настроем, а агромністыя цвыркуны, слімакі і кветкі здаецца вось-вось ажывуць. В. Дайлідка праявіўся таксама як выдатны карыкатурыст (выканаў сяброўскія шаржы ўсім удзельнікам пленэру) і плакатыст.

Настроем (тонкай рамантыкі, калі б удакладніць) дыхаюць карціны з цыкла „Там быў лес" беластачанкі Тэрэсы Бэйнаровіч. Мастачка дасканала аперыруе колерамі, святлом. Надта пажыўная страва вачам і душы. Пасля В. Дайлідкі, пры яе палотнах менавіта найдаўжэй затрымоўваліся людзі.

Зрок наведваючых прыцягвалі таксама тры працы („На пленэры", „Ноч" і „Студзень") дачкі паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай — прыгажуні Вікторыі Загнетавай з Гродна. Маладая мастачка выразна праяўляе сваю зачараванасць Брэйгелем, а хіба крыху і Шагалам.

У сваю чаргу дух Рэмбранта выразна блукаецца ў цікавых рэмінісцэнцыях Георгія Скрыпнічэнкі з Менска. „Белавежскую восень" ён бачыць як старога мужчыну ў сурдуце і капелюшы з пярынкай на галаве, які ўваходзіць у задворкі. Цікава рэкамендуецца і ягоная „Уверцюра" — нейкі раздзьмуты ветрам чалавек з лямпачкай замест галавы.

З іншых мастакоў з Беларусі на ўвагу заслугоўвае несумненна Мікола Крукаў з Бярэсця. Асабліва цікавы яго твор з гусаком, якога шэрая бель удала гарманізуе з яркімі кветкамі. Нічога цікавага, арыгінальнага я не прыкмеціў у працах Алы Каласенцавай і Ірыны Завало.

Калі б яшчэ каго трэба было „заўважыць", то несумненна Галіну Эйсымонт з Варшавы (цікавыя храматычныя акварэлі), Мар'яна Кучму з Вроцлава (на палотны наклейвае ён розныя прадметы, потым іх малюе, гарманізуючы з фонам) і беластачанку Эву Барэчка-Семянюк (пейзажы, маляваныя ашчадными колерамі). Мабыць, нельга абмінуць некаторыя працы Уладзіміра Тыща з Бельска-Падляшскага, асабліва „алейныя манатыпіі".

На выстаўцы 23 аўтары паказалі звыш ста прац.

Традыцыйна ўжо, пасля Белавежы, працы з пленэру будуць нейкі час паказвацца ў Беластоку.

**ПЁТР БАЙКО**

## ТАРКВЕМАДА — ТАНЦОР СМЕРЦІ

Кніжку пад такім загалоўкам, пяра польскага гісторыка Е. Цэпіка, нядаўна я прачытаў. Раскрывае яна кулісы дзейнасці каталіцызму ў Заходняй Еўропе на прыкладзе Іспаніі ў XV стагоддзі. Тамас Тарквемада (1420-98) увайшоў у гісторыю дзякуючы таму, што прывёў інквізіцыю да яе апагея. У маладых гадах быў ён вельмі спагадлівым хлапчуком, плакаў нават над замерзлай узімку птушкай. Калі пасталеў, пайшоў у манахі і там дайшоў да пасады ігумена манастыра Санта-Круз у Сегові. Яго інквізітарская дзейнасць пачалася ў 1483 годзе, калі дабіўшыся давер'я лютых уладароў Іспаніі — каралевы Ізабелы і яе мужа Фердынанда, а таксама рымскага папы, стварыў ён цэнтральнае кіраўніцтва крывавжэрных установ: Супрэмы і Трыяны. Апошняя — гэта цяжкія турмы ў Іспаніі. Цэлую краіну Тамас Тарквемада нашпігаваў сваімі шпіёнамі і даносчыкамі. Людзі млелі ад страху, пачуўшы яго прозвішча. Знішчыў ён паголоўна ўсіх, хто быў хаця крыху разумнейшы ад яго. Штодзённа ў Іспаніі гарэлі кастры з жывымі людзьмі, якія перад гэтым падвяргаліся страшэнным катаванням у турмах Трыяны. Тарквемада любаваўся відовішчам, калі на кастрах інквізіцыі гарэлі найлепшыя людзі Іспаніі: вучоныя, мастакі, філосафы, а нават прагрэсіўныя айцы Касцёла. Верыў ён, што калі гарыць жывы чалавек, тады ачышчаецца яго несмяротная душа. Паводле няпоўных даных, бо шмат дакументаў загінула, Тарквемада паслаў на касцёр каля 16 тысяч чалавек, а ў цэлай Іспаніі ў XV стагоддзі загінула ў агні каля мільёна людзей. Але гэта не ўсё: калі на папскі пасад прыйшоў Аляксандр VI Борджыя, Тарквемада выгнаў з Іспаніі каля мільёна яўрэяў, трэцяя частка з якіх памерла ў дарозе. Прагнаў ён таксама маўраў — мусульман, якія жылі на поўдні Пірэнейскага паўвострава. Да гэтага трэба дадаць, што кастры гарэлі не толькі ў Іспаніі; гарэлі яны ва ўсіх краінах Заходняй Еўропы, у тым ліку і ў Італіі, на радзіме папства, дзе ў 1600 годзе загінуў у агні вялікі італьянскі мысліцель і філосаф Джардана Бруна і шмат іншых. Цяжка паверыць, што рабілася гэта людзьмі, якія насілі на шыі цяжкі драўляны ці медны крыж. Калі яшчэ прыпомніць Крыжовыя паходы, дзе таксама лілася кроў, ці дзейнасць Крыжацкага ордэна, то валасы дыбам становяцца, што некаторыя рэлігіі вырaслі на крыві, гвалце і пагардзе да чалавека. Варта яшчэ заўважыць, што ў кіраўніцтве інквізіцыі былі камісары, так як у Сталіна ці Гітлера; відаць, патрэбныя яны ўсюды там, дзе заводзіцца новы, „чысты" парадак.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## АДКРЫТЫ СЕМІНАР
### „ПАГРАНІЧЧА. САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ".

Паведамляю, што з 1 снежня 1993 г. пачынаю весці адкрыты навуковы семінар пад назвай „Пагранічча. Сацыялагічныя даследаванні". Семінар будзе адбывацца ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку па вул. М. Кюры-Складоўскай, 14, зала н-р 510.

Мэта семінара — выпрацаваць магчыма аб'ектыўныя веды наконт пагранічча, абмяняцца вопытам з даследаванняў і іншымі роздумамі над пагранiччам.

Асаблівая ўвага будзе адведзена ўсходняму памежжу, яго спецыфіцы, успрымаемай як польскім бокам, так і нашымі ўсходнімі суседзямі. Мяркую, што семінар пасадзейнічае станаўленню новай сацыялагічнай субгаліны — сацыялогіі пагранічча, а таксама паспрые распаўсюджванню рацыянальных узораў грамадскага сужыцця на пагранiччы.

Семінар будзе займацца пагранiччам як абшарам, на якім здзяйсняецца кантакт і сужыццё двух або больш этнічнакультурных груповак; як сутыкненнем культур і іх складаных паслядоўнасцямі ў жыцці даных грамадскасцей; як грамадска-культурным феноменам, які фармуецца ў выглядзе, між іншым, новых аўтанамічных культур, узнікнення чалавека пагранічча і іншае.

Увага будзе засяроджана таксама на свядомасці людзей, якія ўдзельнічаюць у гэтай рэчаіснасці і ствараюць яе.

На семінары вынікі сваіх даследаванняў, роздумы і высновы прадстаўляць будуць вядомыя ў гэтай галіне спецыялісты.

Семінар мае адкрыты характар, а гэта абазначае, што да ўдзелу ў ім запрашаем усіх зацікаўленых пытаннямі пагранiчча як з універсітэта, так і з іншых вышэйшых навуковых устаноў, з горада Беластока і рэгіёна.

Самы бліжэйшы семінар адбудзецца 1 снежня а 15 гадзіне ў Інстытуце філасофіі і сацыялогіі ў Беластоку, вул. М. Кюры-Складоўскай, 14, зала 510. Тэма семінара: **Перамены канфесійнай структуры жыхароў Рэспублікі Беларусь у 1970—1993 гадах.** Уводны даклад зачытае прафесар Спартак Польскі — загадчык Лабараторыі этнічнай геаграфіі Педагагічнага інстытута ў Менску.

**Сардэчна запрашаю.**

**Праф. д-р габ. Андрэй Садоўскі**
**Лабараторыя сацыялогіі ІФіС ФУВ**

# СЯРГЕЙ КАРНІЛОВІЧ (1929—1993)

На 64 годзе жыцця памёр у Клiўлендзе адзін з больш актыўных дзеячоў беларускай эміграцыі — Сяргей Карніловіч. У свой час быў ён старшынёю кліўлендскага Аддзела Беларуска-амерыканскага задзіночання, а апошнім часам — старшынёю царкоўнага камітэта ў парафіі Жыровіцкай Божай Маці Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Кліўлендзе. Спадар Карніловіч быў адным са стваральнікаў, кіраўніком і душою беларускага цэнтра „Полацак" пад Кліўлендам. Хаця паходзіў ён з Вялейшчыны, нарадзіўся 4.XI.1929 г. у Докшыцах, быў добра вядомы у нас, на Беласточчыне. Дапамагаў нашым цэрквам, беларускаму руху, шмат разоў наведаў Беласточчыну, дзе, між іншым, быў госцем нашай рэдакцыі.

Са смерцю спадара Карніловіча беларуская дыяспара ў ЗША пацярпела вялікую страту. На пахавіны, адпраўленыя мітрапалітам БАПЦ Мікалаем і мясцовым настаяцелем а. Міхалам Страпко, сабралася вялікая грамада беларусаў з Кліўленда, Чыкага, Нью-Ёрка, Таронта. Прыйшлі суседзі і знаёмыя іншых нацыянальнасцяў, якія ведалі і паважалі Сяргея Карніловіча.

Правесці спадара Карніловіча ў апошнюю дарогу прыехалі ў Кліўленд міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётр Краўчанка і пасол РБ у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Генадзь Бураўкін, старшыні Беларуска-амерыканскага задзіночання — Антон Шукелойць і Згуртавання беларусаў Канады — Мікола Ганько. З жалобным канцэртам пасля пахавінаў — на якім спяваліся, між іншым, гімны „Спі пад курганам героя" і „Спеце ўсе тыя, што праўды шукалі па свеце" — выступіў менскі калектыў „Сябры".

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Два крыжы, пастаўленыя ў 1913 і 1924 г.г. на скрыжаванні дарог у Сураж і Канцавізну.*

# ЯШЧЭ АДЗІН КРЫЖЫК...

Мінае яшчэ адзін год. Што ж ён нам прынёс? Яшчэ адзін крыжык на плечы. У жыцці, скажам, нармальна: адных хрысцім, другіх хаваем. У маім жыцці — нічога добрага, хваробы поўная хата. Жыццё плыве незабагата. А яшчэ пакінуў нас незабыўны мой швагер, Янка Болбат. Было яму ўсяго 56 гадоў, толькі жыць! Лесніком быў цэлае жыццё ў Белавежскай пушчы.

А іншыя справы? Як штогод — цэны растуць. Дамашні бюджэт усё скрамнейшы. Да гэтага ўжо мы прывыклі. Тамсям людзі не вытрымалі і страйкавалі.

А што з нашымі марамі? Ці яны ў каго здзейсніліся? Ой, не ва ўсіх! А, можа, мы ад жыцця замнога чакалі? Усё ж, можна сябе пацяшаць, што ў наступным годзе дачакаемся лепшага. Дай Божа! А чаго жадаць краіне? Думаю, што праўды і... крыху жартаў! Ой, было ўсяго, было!..

Працаваў парламент, збіраўся, дыскутаваў. Стараўся палепшыць наша жыццё. Так, задбаў пра сябе. А на нас забыўся. Не стала лепш рабочаму, пенсіянеру, настаўніку, селяніну. А, можа, яны замнога хацелі?.. Напэўна, не! І прэзідэнт не сядзеў склаўшы рукі. Колькі ж краін наведаў! Колькі разоў падпісаўся! Колькі разоў быў прымушаны прабаваць экзатычных страў, да іншай ежы прывыкаць! Аж яго шкада, пры ягонай дыэце. Але, без жартаў, для краіны шмат зрабіў. Парламент разагнаў. Па ўсёй краіне разбегліся парламентарыі, як мурашкі. Адшукалі іх урэшце іхнія выбаршчыкі. Зноў ім абяцалі, талкавалі, прапанавалі Амерыку для ўсіх.

А як трымалі сябе беларусы? Ну, як беларусы. Многа, гаворыць, хацелася нам, толькі каб без нас. Ну і выйшла так. Не маем свайго чалавека ні ў Сейме, ні ў Сенаце. Як галасавалі, так і дасталі. Ці гэта Крылоў не на нашым прыкладзе казку пісаў?

**ГРЫША МАРОЗ**

# ЧАРГОВЫ ЎЗЛОМ У ЦАРКВУ

Вернікі, якія 14 лістапада г.г. прыйшлі на Літургію ў царкву Св. Марыі Магдаліны ў Беластоку, даведаліся аб узломе ў гэты храм. Той, хто прыйшоў раней, мог пачуць пра гэтае здарэнне з размоваў пры свечачнай скрыні, а хто пазней, той даведаўся ўсяго пад канец пропаведзі айца Анатоля Лаўрашука. Узлом быў учынены праўдападобна ў пачатку другога тыдня гэтага месяца, бо факт гэты быў заўважаны 11 лістапада. Зладзеі ўвайшлі ў царкву цераз акно ў алтарнай частцы, раней разагнуўшы пруткі ў краце.

Злачынцы ўкралі больш за дзесятак ікон, у тым ліку іконы Збавіцеля, Св. Мікалая і Прападобнага Серафіма Сароўскага. Відаць, былі гэта спецыялісты, калі пакінулі рэпрадукцыі і напісаныя нядаўна іконы. Са свечачнай скрыні зладзеі забралі каля 1 мільёна злотых. Трэба сказаць, што ў царкве не былі зроблены іншыя зласліва прадузятыя пашкоджанні, што можа паказваць на прафесіяналаў.

Пры „нагодзе" ўзломаў многа пісалася пра забеспячэнне храмаў. Царква Св. Марыі Магдаліны знаходзіцца ў Беластоку, непадалёк сабора Св. Мікалая, у цэнтры горада, а не дзесьці на вясковых могілках. Відаць, астаецца нам толькі маліцца, каб Бог захаваў ад зладзеяў нашы храмы! Аднак народная прыказка напамінае, што сцеражонага і Бог сцеражэ. Калі ў будучым будуць учынены чарговыя крадзяжы ў нашых цэрквах, дык не будзе ўжо ўзломаў у царкву Св. Марыі Магдаліны. З гэтага храма вынеслі ўжо ўсе каштоўныя іконы.

**С. Н.**

# СВЯТЫ АПОСТАЛ І ЕВАНГЕЛІСТ МАТФЕЙ



Апостал Матфей — адзін з дванаццаці, якога інакш называлі Левіем, выводзіўся з Іерусаліма. Да часу прызвання яго Хрыстом жыў ён у Капернауме, дзе быў мытнікам. У гэтым месцы варта прысвяціць некалькі слоў гэтаму занятку. У Рымскай імперыі былі імі багатыя людзі знатнага паходжання, якія за назначаную аплату атрымоўвалі на нейкі час права збіраць падаткі ў адной з рымскіх правінцый. Былі гэта свайго роду арандатары, якія ў сваю чаргу назначалі сваіх падначаленых (чыноўнікаў) для збору мыта ад мясцовага насельніцтва. Гэта менавіта яны — мытнікі (мытары) з Новага Запавету. Маглі імі быць як рымляне, так і жыхары дадзенай краіны, правінцыі. Іх пазіцыя і прагнасць выклікала ў насельніцтва антыпатыю, падазронасць, а нават варожасць. Яўрэі лічылі іх здраднікамі айчыны і ставіліся да іх як да грэшнікаў і язычнікаў. З такімі людзьмі стараліся не толькі не падтрымоўваць сувязей, але нават не размаўляць. Адным з мытнікаў быў і Матфей. Вось як аб прызванні яго Хрыстом гаворыць ён сам (Матф., 9:9-13): „Праходзячы адтуль, убачыў Іісус чалавека, што сядзеў на мытні, якога звалі Матфей, і кажа яму: ідзі за Мною. І ўстаў той і пайшоў за Ім. І сталася, калі Іісус узляжаў у доме, вось, многія мытнікі і грэшнікі прыйшлі і ўзлеглі з ім і вучнямі Ягонымі. І ўбачыўшы гэта, фарысеі сказалі вучням Яго: навошта Настаўнік ваш есць і п'е з мытнікамі і грэшнікамі? А Іісус, пачуўшы гэта, сказаў ім: не здаровыя маюць патрэбу ў лекары, а хворыя; ідзіце, навучыцеся, што азначае: „міласці хачу, а не ахвяры"?, бо Я прыйшоў заклікаць не праведнікаў, а грэшнікаў да пакаяння" (глядзіце: Марк, 2:14-17 і Лук., 5:27-32).

Апостал Матфей — аўтар аднаго з чатырох Евангелляў. Было яно напісана перш за ўсё для хрысціян з ліку яўрэяў і агульна для яўрэяў. Яго галоўная мэта — паказаць, што Хрыстос з'яўляецца сапраўдным Месіем, якога чакаюць тысячагоддзямі, аб якім гаварылі прарокі Старога Запавету. З тае ж прычыны ў Матфея больш, чым у іншых Евангелляў спасылак на старазапаветныя прароцтвы або непасрэдных цытатаў.

Апостал Матфей прапаведаваў у Палесціне, Сірыі, Мідыі, Персіі, Індыі і Эфіопіі. Невядомай ёсць дата ягонай смерці. Адна з версій расказвае, што загінуў ён ад агню. Память Св. Апостала і Евангеліста Матфея ушаноўваем **29 лістапада (16.11. па старому стылю).**

Гэты дзень з'яўляецца адначасна другім днём **Раждзэственскага Посту,** які пачынаецца 28 лістапада, у гэтым годзе ў нядзелю. Падчас гэтага посту рыбу мы павінны есці толькі ў суботу і нядзелю і ў некаторыя святы, а ў аўторкі і чацвяргі можна есці стравы з алеем і падмацоўвацца невялікай колькасцю віна. Панядзелкі, серады і пятніцы — гэта дні асабліва строгага посту. Такімі ж ёсць і апошнія пяць дзён перад Раждаством. Тады, нават у нядзелю не ямо рыб а толькі алей. Трэба таксама памятаць, што загавіны (запусты), якія выпадаюць напярэдадні посту, служаць канчатковаму падрыхтаванню да перыяду посту. Калі хто хоча зрабіць традыцыйныя запусты ў форме вечарыны з танцамі, павінен гэта зрабіць найпазней да 26 лістапада, значыць да пятніцы вечара.

**С. Н.**

# АСВЯЧЭННЕ ЦАРКВЫ ПРАПАДОБНАЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

1 лістапада г.г. адбылося асвячэнне новапабудаванай царквы на могільніку, які прыналежыць прыходу Святога Мікалая ў Беластоку. Знаходзіцца ён у Старасельцах, насупраць „Элеватараў". Спачатку асвяцілі прастол і царкоўны інтэр'ер, а пасля, ідучы з Хрэсным ходам, асвяцілі царкву звонку. Пасля асвячэння пачалася першая Літургія, якая служылася на сталым прастоле. Бажэственную службу адпраўляў архіепіскап Сава ў саслужэнні духавенства прыхода Святога Мікалая. Дзень для асвячэння быў выбраны невыпадкова: у той дзень ушаноўваецца памяць Прападобнага Іаана Рыльскага і Праведнага Іаана Кранштадскага, якія побач Ефрасінні Полацкай з'яўляюцца нябеснымі заступнікамі гэтага храма. Будова царквы пачалася ў 1990 годзе, калі прыдбаны быў пляц на могільнік. Многа напрацаваўся пры гэтай пабудове настаяцель Святамікалаеўскага прыхода айцец Серафім Жалезняковіч. Пасля Літургіі служылася паніхіда па памерлых праваслаўных хрысціянах.

**С. Н.**



*Могільнік у Старасельцах.*
**Фота С. Назарука**

 

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# ВАЗОНЧЫК

Старая баба не любіла маладую нявестку. Ї не сказаць, каб ведала, за што. Вось не любіла — і ўсё.

Свякрухі наогул недалюбліваюць сваіх нявестак, бо як жа гэта так, забрала яе сына, якога яна песціла і даглядала, ды круціць ім як хоча! Праўду кажучы, дык і нявесткі рэдка калі адплачваюць за гэта дабром.

Няма горшай бяды, калі ў такой свякрухі ёсць яшчэ дачка. У старой бабы дачка была. Яна засталася з сям'ёй на гаспадарцы, а баба пасля вайны пераехала жыць да сына, бо ў горадзе, дзе цяплей і сытней, сказаў сын, будзе старэчы лепш.

Магчыма, сын спадзяваўся яшчэ, што маці дагледзіць яго дачушку, сірату па першай жонцы, якая памерла ў 35 гадоў. Старая баба ў горад прыехала, але ўсімі думкамі была з даччынымі дзецьмі, якіх было трое. Зрэдку ездзіла аўтобусам на вёску наведаць дачку. Сын пакаваў тады ў дзве вялізныя сумкі кансервы, каўбасу, галандскі сыр, цукар і рознае іншае смакоцце, якога на вёсцы тады не было. Цешыўся, што ўдалося заашчадзіць крыху граша для сястры. Старая баба з нязвыклым спрытам як на свае 75 гадоў падымала гэтыя сумкі, запэўніваючы збянтэжанага сына, што ёй няцяжка і яна сама данясе іх да аўтобуса.

Праўду кажучы, калі б пашукаць прычыны недалюблівання старэчай сваёй маладой нявесткі, дык можна было б нешта і знайсці. Вось, напрыклад, чаму гэта не нявестка пакуе ёй тыя сумкі, а сын, ды і то, каб жонка не бачыла і не дакарала?.. Нябось, сама на футра збірае, краляю стаць захацелася! Старую аж трэсла. Забылася ўжо, як у гумоўцах гной мясіла. Не дай Божа свінні рогі...

А ці ж выпадае, каб маладзіца, жопу адваліўшы, кніжачку сабе чытала, а старая баба ў той час сама сабе бялізну мыла?! Ці ж ёй ужо пад сілу чахол на коўдру выкруціць?.. Сабе і мужу вунь як вымыла! Бялізна аж свеціцца ад чысціні. А бабе не памые. А што яна будзе ёй мыць! Калісь шкарпэткі палажыла на канапе, дык старая сказала: „А Божа мой, дзеткі, такая маладая, а ногі смярдзяць, як у казы". Смярдзелі, бо пацелі, але старая мае ціпер за сваё. Праўда частавата бокам вылазіць.

Калісьці баба ўлезла ў прыхаваныя на свята разынкі. Ды так нешчасліва ўлезла, што некалькі разынак вываліліся з яе касцістай жмені і пакаціліся па падлозе. Колькі не шукала сваімі слабымі ўжо вачамі — не знайшла. Ї ўсё выкрылася.

Старая ведала, што нявестка трымае разынкі на пірагі. Але ж так захацелася ўкінуць у рот нешта салодзенькае, а што тут возьмеш, калі на салодкае ў гэтым доме не раскідаліся... Вось і ўлезла яна ў тыя разынкі. А чым гэта скончылася — лепш не гаварыць.

Але сын быў не такі. Ён маці дагаджаў ва ўсім. Перш ёй на стол падаваў. З хлеба скарыначкі старанна абразаў, каб было ямчэй есці бяззубым ротам. Калі пасціла, а рабіла гэта не толькі ў Вялікі пост, дык сын купляў для маці нешта нескаромнае.

Старая баба была вельмі набожная. У царкву хадзіла штонядзелю, ды і ў хаце малілася штораз, а найдаўжэй перад сном. А ўжо як пасціла, як пасціла... Было і так, што жыла на хлебе і вадзе. У гэтых адносінах на сто працэнтаў выконвала запаветы Божыя. Вельмі шанавала ўсе царкоўныя святы, ніколі нічога не рабіла ў гэтыя дні.

Нявестка, гледзячы на гэта, толькі загадкава ўсміхалася. Старая ў злосці часам ёй казала, быццам яе першая нявестка была анёлам, але людзі сцвярджалі, што тады было тое самае. А калі ўжо гэта яна такая добрая, дык хай бы хоць крыху больш сэрца аказала той сіроцінцы 10-гадовай, на мачыхі ласку здадзенай... А то ўсё даччыным ды даччыным дзецям цягне.

Старая баба была цвёрдая. У маладой нявесцы бачыла ведзьму — і ўсё тут. Заваражыла сына і кропка, расказвала ўсім навокал. А што! Хопіць калíва крыві з менструацыі падкінуць у яду чалавеку, каб закахаўся насмерць! Не інакш, яна гэта зрабіла. Ну, бо чаму ж ён яе ўзяў?!

Нячыстая сіла, кажу вам, пераконвала яна суседзяў, а ў мяне лёгкая рука. Гляньце на вазончыкі, што стаяць на кухні. Вунь той, малы і кволы, нявестка пасадзіла, а тыя, што буйна растуць, — мае. Відаць адразу, у каго якая рука. Ведзьма яна, кажу вам, ведзьма!

Сыну было прыкра, што дзве блізкія яму жанчыны грызуцца, быццам нейкія суперніцы. Ї чаго, здаецца... Маці — гэта маці, а жонка — жонка. Як дагадзіць абедзвюм?..

Стараўся дапамагаць ім ва ўсім як мог. Усё хадзіў па хаце з анучкай і падціраў. Перад Калядамі прыбіраў на кухні падваконнік. Нахіліўся над вазонамі. Хацеў той кволенькі вазончык выкінуць у сметнік, бо што ж будзе стаяць без патрэбы, калі расці не хоча. Узяў у рукі — і нешта яго цюкнула. Паднёс да носа і панюхаў. Ад вазончыка смярдзела газай. Не верачы таму, што ўбачыў, сын пабег у кладоўку, дзе стаяла старая, яшчэ з вайны, нафтавая лямпа. Трымалі яе заўсёды напоўненую, на ўсякі выпадак, калі б напрыклад, выключылі святло. Лямпа была пустая. Сын старухі вярнуўся на кухню, панюхаў той бедны вазончык яшчэ раз — і ўсё стала яму ясна. Паліваннем вазонаў займалася маці. Вазончык, які пасадзіла нявестка, яна палівала... газай.

* * *

Быў добрым сынам і не сказаў маці ані слова. На вячэру падрыхтаваў ёй посную страву: набліжаліся ж Каляды, а маці ў час посту, барані Божа, не ўзяла б у рот скаромнага.

**АДА ЧАЧУГА**

---

НА МЯЖЫ

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

**ЧАСТКА XXI**

Прыведзеныя выказванні грамадзян Рэспублікі Беларусь аб вайсковым Саюзе Беларусі з Расіяй сведчаць аб тым, што ў гэтай справе няма ў беларускім грамадстве аднамыснасці і што толькі рэферэндум мог бы акрэсліць, як да ідэі вайсковага саюза падыходзіць большасць беларусаў. Я, як вядома, з'яўляюся яго працаўнікам. Аднак мой голас не мае ніякага значэння таму, што я, як грамадзянін чужой дзяржавы ў такім рэферэндуме не меў бы права прымаць удзел. Ї ўсё ж такі, нягледзячы на гэта, я, будучы беларусам, маю права займацца тымі ўсімі пытаннямі, якія маюць істотнае значэнне для лёсаў усяго беларускага народа.

Думаю, што значную цікавасць выкліча мая інфармацыя аб тым, як да ідэі вайсковага саюза Беларусі з Расіяй адносяцца беларусы, якія жывуць па-за межамі Беларусі.

Ї так, практычна ўсе беларусы-эмігранты ў заходніх краінах ідэю вайсковага саюза асуджаюць і катэгарычна адкідаюць. Бачаць яны ў ёй форму рэстаўрацыі Савецкага Саюза, у якім Беларусь будзе толькі пешкай у руках рускіх палітычных, гаспадарчых і вайсковых ігракоў. Трэба сказаць і тое, што амаль усе заходнія беларусы ведаюць, што гэта такое вайсковы саюз з Расіяй і чым ён пагражае.

Зусім іначай выглядае гэта справа ў выпадку беларусаў, пражываючых у Польшчы. Многія з іх увогуле пра такі саюз не чулі і не ведаюць, чым ён можа быць для Беларусі. Большасць з тых, хто пра вайсковы саюз чуў, ахвотна аб ім выказваюцца, аднак іх выказванні намнога карацейшыя і больш убогія, чым цытаваныя ўжо выказванні беларусаў з Рэспублікі Беларусь. З гэтага можна зрабіць вывад, што беларусы ў Польшчы, занятыя сваімі праблемамі і клопатамі, не вельмі маюць час і ахвоту, каб займацца глыбокім мысленнем аб справах, якія датычаць Рэспублікі Беларусь. А калі такое мысленне і выступае, дык хутчэй за ўсё датычыць яно штодзённых бытавых праблем беларускага жыцця, а не палітычных пытанняў. Амаль усе выказванні аб вайсковым саюзе беларусаў з Польшчы адзначаліся выключным лаканізмам і кароткасцю. Вось некаторыя з іх: „То ж у Беларусі заўсёды была беларуская армія, то напэўна так будзе і ў будучыні", „Па-мойму, Беларусь не мае іншага выхаду, мусіць трымацца Расіі", „Вядома ж, што рускія вызвалілі Беларусь ад немцаў, то яны і далей павінны быць у Беларусі", „Яшчэ немец рване ў Расію і кудою ён пойдзе ў яе? Праз Беларусь, вядома. Беларусь павінна з рускімі трымацца", „У беларусаў і рускіх тое самае, падобны язык, то і армія павінна быць адна", „Хай Расія і Беларусь будуць разам, каб толькі беларускіх салдат не гналі ў тыя розныя Арменіі".

Вымова прыведзеных ацэнак неадназначная і не вымагае інтэрпрэтацыі. Цікава, аднак, што пасля ельцынаўскага разгрому Вярхоўнага Савета ў Маскве, некаторыя з размоўцаў пачалі гаварыць аб небяспецы ўцягнуць беларусаў у крывавыя падзеі. Генеральна аднак беларусы з Польшчы не бачаць у вайсковым саюзе Беларусі з Расіяй нічога дрэннага. Сказанае адносіцца перад усім да беларусаў з усходняй Беласточчыны. Многія з беларускіх размоўцаў з Варшавы глядзяць на гэта пытанне падобныя, як гляджу і я.

Заканчваючы свае інфармацыі і разважанні аб вайсковым саюзе Беларусі з Расіяй, прагну яшчэ раз падкрэсліць, што Беларусь зможа спакойна спаць толькі тады, калі будзе апіраць сваю бяспеку на фундаменце агульнаеўрапейскіх трактатаў. Пэўнае значэнне маглі б мець таксама дамоўленасці з усімі суседзямі Беларусі. Ідэя вайсковага саюза толькі з адным суседам можа давесці да трагічных вынікаў, за якія мусіў бы плаціць увесь беларускі народ.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПОЛЬШЧЫ

Два тыдні таму грамадства горада Беластока ўрачыста святкавала 75 гадавіну вяртання незалежнасці Польшчы.

Святкаванні пачаліся 8 лістапада адкрыццём выстаўкі „Калі волю адчуваць і любіць умееш" у Ратушы. На другі дзень служылася набажэнства за Айчыну ў праваслаўным кафедральным саборы св. Мікалая. Праз дзень складзены былі вянкі на Вайсковых могілках на вул. 11 Лістапада, а вечарам у Тэатры імя А. Вянгеркі можна было паглядзець спектакль „Мы, Перша брыгада" ў выкананні Ансамбля філармоніі імя Рамуальда Траўгута. Перад спектаклем з гістарычным роздумам выступіў прафесар Адам Чэслаў Дабраньскі.

У самае Свята Незалежнасці, 11 лістапада, служылася імша ў гонар Айчыны ў каталіцкім кафедральным саборы Успення Прасвятой Дзевы Марыі, адкуль прысутныя перайшлі пад помнік Маршалу Юзафу Пілсудскаму, ля якога прамовіў беластоцкі ваявода. Да помніка ўскладзены былі вянкі і кветкі.

Набажэнства за Айчыну ў саборы Св. Мікалая адправіў 9 лістапада Яго Праасвяшчэнства архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава ў саслужэнні шматлікага беластоцкага праваслаўнага духавенства. На набажэнства склаліся акафіст у гонар святога младзенца Гаўрыла Заблудаўскага і малебен за Айчыну і загінуўшых за яе патрыётаў.

Царква была перапоўнена вернікамі. У набажэнстве прымалі ўдзел ксёндз пралат Зыгмунт Лявіцкі, беластоцкі ваявода прафесар Станіслаў Пруціс, прэзідэнт горада Беластока Лех Руткоўскі і шматлікія прадстаўнікі уладаў, войска і паліцыі. Шаноўныя госці занялі адмыслова пастаўленыя крэслы. Пабапал стаялі вайскоўцы-ветэраны пад штандарамі. Сцяг красаваўся таксама над уваходам у сабор ад вуліцы Ліповай. На заканчэнне хор праспяваў беластоцкаму ваяводу і прэзідэнту горада „Многая лета". Пасля набажэнства ўладыка Сава запрасіў шаноўных гасцей у свой дом на гарбату.

Беластоцкае праваслаўнае грамадства першы раз з даваенных часоў адсвяткавала такім чынам Свята Незалежнасці Польшчы.

**А. Л.**



*Шаноўныя госці занялі адмыслова пастаўленыя крэслы.* **Фота Міхала Косця**



 




### ПАНЯДЗЕЛАК, 29 ЛІСТАПАДА

8.00 Пад купалам Сусвету. 8.15 „Анюта". Фільм-балет. 9.25 „Пры адчыненых дзвярах". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 11.35 Тамара Нікалаева на сцэне і ў жыцці. 12.30 Навіны Бі-Бі-Сі (з сурдаперакладам). 12.40 „Процістаянне". Маст. фільм. 4-я серыя. 13.55 Каралеўскае паляванне. Шоў-казіно. 14.55 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 5-ы клас. Міхась Лынькоў. „Міколка-паравоз". 15.20 Для школьнікаў. Латарэя аўтографаў. 16.10 „Вам нашы песні і кветкі". Музычна-забаўляльная праграма. 16.55 Спасціжэнне ісціны. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 „Будзем знаёмыя..." Часопіс „Дыябетык". 18.30 „Шануйце спадчыну сваю". 19.35 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 21.10 „Фенікс". Фільм. 6-я серыя. 22.10 НІКа. 22.25 „Калі святыя маршыруюць". Маст. фільм. 12.05 „Штовечар — анекдот..."

### АЎТОРАК, 30 ЛІСТАПАДА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Мелодыі старога замка". Фільм-канцэрт. 8.00 ТБ — школе. Беларуская літаратура. 5-ы клас (паўтор). 8.25 „Фенікс" Фільм. 6-я серыя. 9.25 „Там, дзе зімуе вясна". Дак. фільм. 10.05 „Мегрэ вагаецца". Спектакль. Частка 1-я. 11.25 „Процістаянне". Маст. фільм. 5-я серыя. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Палескія вяселлі". Музычны фільм. 13.00 Вызваленне: 1943—1993. Хоцімск. 13.35 Педагагічны экран. 14.15 Цэнтр. Падарожжа па Турцыі. 15.00 „НОВ і К" — топ-10. 16.00 Тэлебіржа. 16.10 ТБ — школе. Музыка. 7-ы клас. Музычны вобраз. 16.40 „Дараганаўскі кірмаш". Знаёмства з фальклорным ансамблем санаторна-лясной школы Магілёўскай вобласці. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Віцебск). 18.10 „Стоп-кадр". Крымінальная хроніка. 18.30 Эканамічная хваля. Аб праблемах беспрацоўя. Прамая лінія. 19.20 1 снежня — Сусветны дзень барацьбы са СНіД. 19.30 Кантакт: адрасы. прапановы, інфармацыя. 19.30 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.10 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа, тэлевізійны Арт-клуб. „Штовечар — анекдот..."

### СЕРАДА, 1 СНЕЖНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Маё светлае імгненне". Фільм-канцэрт. 8.00 ТБ — школе. Музыка. 7-ы клас (паўтор). 8.30 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.55 Спартыўны стыль. 9.00 Фільм-канцэрт. 9.40 „Мэгрэ вагаецца". Спектакль. Частка 2-я. 11.15 „Песню бярыце з сабою". Тэлефестываль беларускай песні ў г. Драгічыне. Частка 1-я. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Грэшнік". Маст. фільм. 14.00 „Партрэт у доўг". Дак. фільм. 14.20 „Харэаграфічныя навелы". Фільм-канцэрт. 15.30 Відзьма-нявідзьма. 16.30 Для щкольнікаў. Маршрутамі дабрыні.16.55 „Замілаванне душы". Хрысціянская праграма. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гомель).18.10 Пяць зорак". Тэлегульня. 19.10 Беларускія музычныя весткі. 19.30 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.35 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.10 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа, „Штовечар — анекдот..."

### ЧАЦВЕР, 2 СНЕЖНЯ,

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Збан ля крыніцы". Фільм-канцэрт. 8.00 Роднае слова. Тэлечасопіс. 8.35 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 9.00 „Аўтапартрэт з кветкамі". Фільм. 9.15 Тэлевізійны дом кіно. 11.15 „Песню бярыце з сабою". Тэлефестываль беларускай песні ў г. Драгічыне. Частка 2-я. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Да расследавання прыступіць". Фільм 1-ы „Версія". 14.50 „Спыніся, прыслухайся...". Дак. фільм. 15.10 Тэлебіржа.15.20 ТБ — школе. Гісторыя. 11-ы клас. Развіццё культуры Беларусі ў 30-х гадах XX стагоддзя. 15.50 „Мара маленькага асляняці", „Страчаная Галактыка". Мультфільмы. 16.20 ТА „Рэха". Эканоміка кожнага дня. 17.20 Зачытайце маё пісьмо... 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Гродна). 18.10 Здароўе. Тэлечасопіс. 18.30 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 18.50 „Гонкі для Беларусі". 19.35 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 21.10 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа, Фестываль мастацтваў „Беларуская музычная восень", „Штовечар — анекдот..."

### ПЯТНІЦА, 3 СНЕЖНЯ,

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.20 „Спявае Ларыса Доліна". Фільм-канцэрт. 8.00 ТБ — школе. Гісторыя. 11-ы клас (паўтор). 8.30 „Салодкі ручай". Тэлесерыял. 8.55 „Ты помніш нашы сустрэчы". Фільм-канцэрт. 9.20 „Структура моманту". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі. 11.30 Дзяржаўны канцэртны аркестр запрашае... 12.15 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 12.30 Навіны (з сурдаперакладам). 12.40 „Да расследавання прыступіць". Фільм 2-гі „Паклёп". 15.10 ПіК. Відэаканал для падлеткаў. 16.00 Да Дня інвалідаў. 17.25 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Сённяшнія клопаты сяла. 18.50 „Гонкі для Беларусі". 19.30 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.35 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 На сесіі Вярхоўнага Савета. Пасля заканчэння — НІКа, „Шапка" (маст. фільм.), „Штовечар — анекдот..."

### СУБОТА, 4 СНЕЖНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Шапка". Мастацкі фільм. 9.00 Паказвае Гомель. „Акцэнт". Мастацкая праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 10.15 Студыя „Тэлесябрына". „Нямеччына вачамі беларуса" (1). 12.05 Урокі здароўя. 12.20 Беларускаму інстытуту інжынераў чыгуначнага транспарту 40 гадоў. 13.20 Дзівосны свет. 14.00 „Мой маленькі поні". Мультфільм (ЗША). 14.30 „На крылах кажана". Пазнавальна-забаўляльная гульня для старшакласнікаў. 15.40 Процістаянне. Маральна-прававая праграма. 16.15 „НОВ і К" — топ-20. 17.15 „Маветон". 17.55 Правінцыя. Студыя „Сэнс" у Акцябрскім раёне. 18.45 „Гонкі для Беларусі". 19.30 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацця. 19.35 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Мадам Батыст". Маст. фільм (Францыя). 22.30 „Каскад". Кантакт. Інфармацыя. Рэклама. 22.45 НіКа. 23.00 Відзьма-нявідзьма. 24.00 „Штовечар – анекдот..."

### НЯДЗЕЛЯ, 5 СНЕЖНЯ

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртаецца прапаведнік Рык Рэнер. 7.55 Справы вайсковыя. Адна сям'я. 8.40 „Калі святыя маршыруюць". Маст. фільм. 10.20 Нядзельнае тэлекафэ „Мая мама". 11.05 Асілак. Спартыўны тэлеклуб. 12.05 Паміж намі, жанчынамі... 12.50 Кінаэкран-93. Снежань. 13.50 Більярд-клуб. 14.30 Студыя „Тэлесябрына". „Нямеччына вачамі беларуса" (2). 15.00 Таямніца. Праграма для сям'і. 15.30 „Прыгоды капітана Урунгеля". Мультфільм. 15.40 „Каханне і галубы". Маст.фільм. 17.20 „Гінес-шоў". 17.50 Запрашаем на вячоркі. „Трэці дзень вяселля". Фальклорны калектыў вёскі Хрыса Бярозаўскага раёна. 19.00 Панарама. 19.35 Пад купалам Сусвету. 19.40 Калыханка. 20.00 „Войскі асобага прызначэння". Фільм (Аўстралія). 20.35 „Шукальнікі прыгод". Фільм (Францыя). 22.15 Сустрэча па вольнай барацьбе. Зборныя Беларусі і ЗША. 23.05 Рок-Айленд. Канцэрт. 23.40 „Штовечар — анекдот...".

## ЯНЫ ЯЕ КАХАЛІ ЯК МАМУ...

У Марыі шчасця не было. Яе сяброўкі, калі зацяжарылі, выходзілі замуж. А да яе хлопцы ліплі, а калі здарылася бяда — пакідалі.

Дзяўчына хадзіла на аборты, але ўрэшце рашыла нарадзіць. Гэта былі блізняткі. Аднак, не давала сабе рады іх гадаваць і рашыла, пакуль круху падрастуць, аддаць іх у дзетдом. Дзяцей прынялі. Маці наведвала іх рэдка.

Марыя пазнаёмілася з Косцем. Тады вось перастала нават заглядаць да сваіх дзяўчынак.

На гэты раз стала Марыя жонкай. Нарадзіла сына. Ужо хацела забраць старэйшых, як муж памёр на інфаркт. Аддала ў дзетдом і малога.

Людзі, гледзячы на Марыю, стукалі сабе пальцам у лоб, але жанчына сваё ведала. Жыла адзінока, наведвала дзяцей у прытулку.

Дзеці выраслі, але з маткай ніколі дома і не пабылі. Запрасілі матку на свае вяселлі. А потым не хацелі, каб ні яна іх наведвала, ні самі не хацелі да яе ехаць.

Пастарэла Марыя, знядужала. Усё плакала перад суседкамі, што дзеці пра яе не думаюць, а яна хоча для іх адно дабра.

Аднавяскоўцы спаткалі дзяцей Марыі ў горадзе, сказалі ім пра бедаванне маці.

— Вось, калі яна падумала! — узлавалася дачка. — Вось бачыце, якое яна для нас дзяцінства нарыхтавала, якую маладосць! Хай бы і бедна мы жылі, але з маткай! З бацькам па-рознаму бывае, але маці ёсць маці. Павінна быць маці...

Суседка расказала Марыі пра сустрэчы з яе дзецьмі. Заплакала старая маці, якая ёю ніколі не была:

— Прагуляла я сваё жыццё. Змарнавала не толькі сваё...

**АЎРОРА**




**Прывітанне, Астронку!**

Нядаўна прыснілася мне такое цікавае, што я не вытрымаў і вырашыў напісаць табе. Стаю я быццам бы ў нейкім сутарэнні, але, прыгледзеўшыся, заўважаю, што гэта трупярня. Пасярэдзіне... стол, і ляжыць на ім нейкі чалавек. Падыходжу я і бачу, што гэта лідэр адной нашай партыі. Ён нябожчык і ўвесь у зялёных трупных плямах. Ад жаху я прачнуўся. Што гэта магло б азначаць?..

З павагай

**Уладзік**

**Дарагі Астроне!**

Я ўжо цэлыя стагоддзі не пісаў табе. Сны бываюць усялякія — добрыя і страшныя, а мне нядаўна прыснілася, што я на агародзе. Раптам бачу, што сліву, на якой заўсёды было шмат сліў, калыша вецер. Ён гайдаў дрэўца то ў адзін бок, то ў другі. Я адышоў крыху далей і бачу, што сліва валіцца на зямлю. Я падышоў бліжэй: на дрэўцы не было ніводнай слівы. Што можа прадвяшчаць гэты мой дзіўны сон?

**А. Г.**

Уладзік! Твой сон нядобры. Прадвяшчае ён вялікую небяспеку твайму „лідэру", а мо нават і табе.

А.Г.! Сон твой вельмі цікавы, але занадта пацешыць цябе не магу. Слівы, калі сняцца, наогул абазначаюць дабрабыт і поспех ва ўсім. Табе, на жаль, прыснілася не толькі сліва без сліў, але і паваленае ветрам на зямлю дрэўца. Нейкі вецер, бадай, пашкодзіць табе ў тваіх справах.

**АСТРОН**



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

### КНЭДЛІ З СУШАНЫМІ СЛІВАМІ

Прадукты:

*40 дэкаў бульбы,*
*20 дэкаў сушаных сліў,*
*мука (столькі, каб цеста не было цвёрдае),*
*4 яйкі,*
*5 дэкаў масла,*
*1/2 шклянкі смятанкі ці малака,*
*соль і цукар,*
*тлушч.*

Слівы намачыць, выняць з іх костачкі. Бульбу зварыць, расцерці. Дадаць яйкі, сцертыя з маслам, малако, соль, цукар і муку. Замясіць цеста і раскатаць. Выразаць шклянкай кружкі, класці на іх слівы, рабіць шарыкі. Змазаць кнэдлі бялком і смажыць на патэльні ў глыбокім тлушчы. Перад падачай пасыпаць цукровай пудрай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. старажытны горад у Іспаніі, 3. невялікі рэстаран з эстрадай, 5. закрытая прастора, 7. жыве ў вадзе, 9. горад у Йемене, 10. спрошчаны падыход да праблемы, 11 і 12. афрыканская дзяржава, 14. адзінства, створанае з трох частак, 16. галоўны горад Амазоніі, 17. месца пахавання.

**Вертыкальна:** 1. жыхары Казані, 2. сталіца Бангладэш, 3. верхні слой ствала дрэва, 4. прыпеў, 6. паляпшэнне зямельных угоддзяў, 8. жыхар Уфы, 9. смеласць, 11. намер, план, 13. невялікая аповесць, 14. баязлівец, 15. фігура ў картах, шашках.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 41 н-ра:** звон, звод, джаз, знак, збор, зубр, узор, зона, зубы, зруб, зрок, абоз, бзік, зрух, указ, база.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Лукаш Пацэвіч з Беластока.**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

**Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранавіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МІЖ НАМІ

— Ты, мама, некультурная, — папракае дачка Гандзя Ліду. — Не глядзіш ты фільмаў. Усё толькі прыбіраеш і прыбіраеш!

— Калі ты пойдзеш замуж, то даведаешся, чаму я фільмаў не глядзела.

Так праплывалі дні, тыдні, месяцы і аднойчы маці захварэла. Лекар даў Лідзе накіраванне ў бальніцу.

Засталася Гандзя дома з бацькам і братамі. У нядзелю пайшла наведаць маці.

— Ну, як там фільмы? Што апошнім часам глядзела ў тэлебачанні? — запытала Ліда.

— Ды няма калі іх глядзець! Толькі прыйду са школы, то адразу — прыбраць, зварыць абед, урокі на заўтра падрыхтаваць... Бацька і хлопцы зусім не дбаюць пра парадак!

— Вось бачыш, калі мне дома да фільмаў, да тваёй „культурнасці"!

**АЎРОРА**

## ТОСТЫ

Прыйшоў час паміраць старому. Памаліўся ён, узняў рукі ў неба і звярнуўся да Бога:

— Божа, дай пажыць мне яшчэ трошкі!

— Колькі ты хочаш? — спытаў Бог.

— Столькі, колькі лісткоў на гэтым дрэве.

— Гэта надта многа.

— Ну, тады столькі, колькі яблык на гэтым дрэве.

— Гэта таксама многа. Я дам табе пажыць столькі, колькі ў цябе прыяцеляў.

— Няма ў мяне прыяцеляў, — сумна сказаў стары і дрыжачай рукою выцер слёзы.

Дык вып'ем жа за прыяцеляў!

І каб іх было больш, чым лісткоў на дрэве!

* * *

Вып'ем за вашае першае пяцідзесяцігоддзе!

## СЕНТЭНЦЫІ

Самыя тонкія праменні праўды непрыкметна праходзяць праз крышталічную сетку розуму.

* * *

Чалавек, які застыў у мінулым, гэта жывая акамянеласць.

* * *

Жыццё — гэта спаборніцтва з сабою, гэта бег да сябе, гэта ўцёкі ад сябе.

* * *

Твор існуе таму, каб ім захапляцца, цела — каб яго малявацъ, душа — каб перад ёю стаць на калені.

**БАРЫС РУСКО**







*Мал. П. Козіча*

## У ЛЕКАРА

Заходзіць да лекара Валодзя з жонкай.

— Пан доктар, я хіба хворы, — мая жонка зусім мяне не ўзбуджае.

— Выйдзіце ў чакальню, — кажа лекар Валодзю. — а вы здыміце станік, майтачкі і ляжце на ложак... Ну, добра, можаце апранацца.

Кліча мужа.

— Не клапаціцеся, вы зусім здаровы, — яна мяне таксама не ўзбуджае.

* * *

Заходзіць Валодзя да лекара.

— Пан доктар, вельмі мяне баліць локаць.

— Прынясіце назаўтра мачу для аналізу.

Валодзя толькі знерваваўся, бо што мае аналіз сікаў да балючага локця? Вырашыў панасміхацца з лекара — у бутэлечку ўліў свае сікі, жончыны, даччыны і яшчэ крыху алею з рухавіка свайго аўтамабіля.

Лекар адчытаў аналіз:

— Ваша дачка — цяжарная, жонка — кахаецца з іншым, матор — да рамонту, а вы — не павінны аналізавацца ў час купання, бо можна стукнуцца аб берагі ванны, адтуль і боль у вашым локці.

* * *

Малады лекар прызнаецца свайму сябру:

— Я выбраў прыгожую прафесію. Сам толькі падумай — раздзяваю маладых жанчын, аглядаю іх, датыкаю ды бяру яшчэ за гэта грошы ад іх мужаў.

* * *

У санаторыі размаўляюць дзве медсястры.

— Ведаеш, учора доктар Кавальскі запрасіў мяне аглянуць ягоную калекцыю марак. Святло было рамантычна прыцемненае, пачаставаў віном — я адказалася. І ведаеш, што ён тады зрабіў?

— Што?

— Чай.

* * *

Апоўначы медсястра будзіць хворага.

— Што сталася? — дапытваецца санлівы пацыент.

— Вы забыліся ўзяць пілюльку на сон.

* * *

Заходзіць баба да лекара-псіхіятра.

— Пан доктар, я вельмі люблю налеснікі...

— Нічога ў гэтым дрэннага, я іх таксама вельмі люблю.

— Сапраўды!? Прыходзьце тады да мяне, у мяне іх поўная шафа.

* * *

Заходзіць баба да лекара.

— Прашу распрануцца.

— А дзе мне пакласці вопратку?

— Вось тут, каля маёй.

**Сабраў А. ГАЎРЫЛЮК**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### ХАТНІЯ ІСТОТЫ

**Чорт хатні**

Дагэтуль мы распавядалі пераважна пра зданяў і пачвараў, што вядуцца ва ўмовах дзікай прыроды. Але татальная урбанізацыя беларускага жыцця не пакідае нячысцікам экалагічных нішаў, і яны вымушаны адаптавацца да новых, нязвыклых для сябе, часам цалкам неспрыяльных умоваў. Так, для прыкладу, Чорт балотны, трапіўшы ў гарадскія ўмовы, канчаткова дэградуе — ягоныя дасціпныя кпіны ператвараюцца ў дурныя жарты і здзекі. Такога балотнага Чорта адлавіў на Гомельшчыне і прывёз з сабой у Менск скандальна-вядомы паэт С., бо нежанатаму маладзёну было сумна штораніцы выпіваць самому. Аднойчы, наведаўшы гістарычную радзіму, пасля тыднёвага запою ён заўважыў у недапітай пляшцы гарэлкі Чорта, закаркаваў яе ды прывёз у сталіцу. У абмен на волю Чорт прапаноўваў яму і пазачарговую кніжку ў выдавецтве „Мастацкая літаратура", і Дзяржаўную прэмію, і медаль Францыска Скарыны, і нават пасаду старшыні Рады Саюза пісьменнікаў, але паэт, глянуўшы каламутным вокам на Чорта, сказаў: „Ты дурны ці што?.." і, навязаўшы нячысціка хвастом да батарэі паравога ацяплення, прымусіў піць нароўні з ім. У Чорта не было аніякага выйсця, і ён згадзіўся скласці кампанію, але з прычыны сваёй злапамятнасці пакляўся ў думках адпомсціць. Але адпомсціць ніяк не выпадала, бо нявопытны Чорт заўсёды напіваўся да бяспамяцтва раней за паэта. І вось аднойчы Чорт здагадаўся, якая мусіць быць помста: ён злаўчыўся прыхаваць пляшку „Русской водки", якую паэт абачліва пакінуў на ранішнюю апахмелку. С., не прыняўшы лекавай дозы звычайнага допінгу, маліў, кленчыў, але ўсё дарэмна — Чорт быў няўмольны. Нарэшце, ён згадзіўся аддаць пляшку пры адной умове: калі паэт памяняецца з ім месцам — будзе сядзець, навязаны да батарэі ацяплення, а Чорт замест С. хадзіць па знаёмых літаратарах у паэтавым абліччы. Тэрмін Чорт абумовіў такі: гэта будзе працягвацца датуль, калі хто не заўважыць падмены. Чорт у абліччы С., пасяліўшыся ў бары Саюза пісьменнікаў, стараўся, як толькі мог — прылюдна мачыўся ў камін, пазычаў і не аддаваў пляшкі, чытаў на ўрадавых канцэртах звышнепрыстойныя чатырохрадкоўі — але да ўзроўню выхадак сапраўднага беларускага паэта так і не дацягнуў, бо ніколі не мог выпіваць столькі ж, не губляючы пры гэтым здольнасці рухацца.

З усяго гэтага вынікае мараль: часам прадаць несмяротную душу нячысціку за пасады, званні і ўзнагароды бывае карысна не толькі для асобнага паэта, але і для ўсёй беларускай літаратуры...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС
І МАРЦІН ЮР**




**Даражэнькае Сэрцайка!**

Быў маім першым і адзіным хлопцам. Іншых я не мела і мець не хачу. Пакахала яго як нікога ніколі, цэлым сэрцам, без рэшты. Нікога апрача яго я не бачыла. Ну, проста засланіў мне свет.

І быў вельмі мілы ў адносінах да мяне. Мае бацькі таксама яго палюбілі, асабліва мама. Мама нават яму некаторыя рэчы купляла. Матывавала: „Ат, убачыла ў краме, дык спадабалася!" Я казала, каб мама не спяшалася, бо ён жа яшчэ не мой муж. Але мама пераконвала мяне, што гэта не мае значэння: хлопец з добрай сям'і, усе іх шануюць і г.д. Вядома, грошы хлопец звяртаў.

Мая сям'я нашмат прасцейшая — і тата, і мама. Простыя людзі, але сардэчныя. Але ў мяне адукацыя, як і ў гэтага хлопца. Можа, было б мне менш прыкра, калі б яму не падабалася мая сям'я: што бедная, звычайная работніца і настаўнік, — і таму мяне кінуў. Але ж не! Кінуў таму, што падвярнулася іншая. Дык што ж гэта было за каханне, калі адышоў у канун нашага вяселля! Я ж ужо і сукенку пашыла, усё было абмеркавана і зала на вяселле заказана. І раптам усё ляснула.

Бацька мне сказаў: „Значыць, не хацеў цябе. Калі б кахаў, другія б для яго не існавалі". Мама плакала, як дзіця. Яна ж ужо нарабіла столькі планаў у сувязі з маёй будучыняй!

У маёй душы засталася пустка і жаль да хлопца, якому ахвяравала я сваё дзявоцтва. Але тая другая дзяўчына была вельмі прыгожая і я ў нейкай ступені нават апраўдвала яго.

Дык вось такая прыгожая не будзе задоўга трымацца аднаго. А ён, небарака, думаў, што здрада — гэта прывілей мужчын. Дамовіўся са сваёй новай дзяўчынай, што спачатку яна выедзе за граніцу, там знойдзе сабе працу і кватэру, а пасля даедзе і ён. Нібы ўсё ішло гладка. Але... да пэўнага часу. Пачала яна адцягваць яго прыезд. Радзей пісала. Дык за сабраныя грошы купіў турыстычную паездку ў Злучаныя Штаты і... прызямліўся ў Чыкага.

На жаль, прыватна ніхто яго там не чакаў. Адлучыўшыся ад экскурсіі, хлопец узяў таксі і паехаў да тае дзяўчыны. Быў вечар, яна павінна была быць дома. Была, але... не адна. Накінуўшы халацік, яна выйшла адчыніць дзверы. У другім пакоі відаць быў ложак, у якім застаўся незнаёмы яму малады чалавек.

Усё ў сярэдзіне ў хлопца замерла. Зразумеў, чаму яна не раіла яму прыязджаць. Не заставалася нічога рабіць, як вярнуцца да рэшты турыстаў. І так турыстам прысхаў ён і турыстам ад'ехаў. Вярнуўся дахаты, прыйшоў да мяне і ўсё расказаў. Прыходзіць цяпер і прыходзіць, і я ўжо бачу, што ён не быў бы супроць, каб мы ізноў „хадзілі". Але нешта ўва мне лопнула, і я ўжо сама не ведаю, ці з такога вялікага кахання не застаўся толькі ўспамін. Сэрцайка! Не ведаю, ці такому чалавеку варта верыць?!

**Анюта**

Анюта! Не ўваходзяць два разы ў адну і тую ж раку. Калі ўцёк першы раз, будзе ўцякаць і надалей. Калі можаш, то не аддавайся яму ізноў. Няхай ён будзе толькі тваім блізкім сябрам. Такі „асістэнт" прыцягне да цябе ўвагу іншых хлопцаў.

**СЭРЦАЙКА**